# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

9 жніўня 2019 года №32 (1267) 18+


# Маладзечанцы аб'ядналі на вяселлі Беларусь і Літву



старонка 18

Фота забяспечанае Вольгай ЮРКЕВІЧ.

## «Удзячныя вочы – бясцэнныя». Як актывісты аб'ядналіся, каб дапамагаць іншым

старонкі 20-21

## Пасля жудаснай аварыі ў Мясаце паклалі ляжачага паліцэйскага і абмежавалі хуткасць

старонка 4



ISSN 1991–7155





Адсканующе QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## «Каларыт Маладзечанскага краю» будзе на вулічнай фотавыставе

МАЛАДЗЕЧНА

Якая наша рэгіянальная кухня? Навошта праводзіць «Луку»? Што такое сямейная абраднасць? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні можна знайсці на вулічнай фотавыставе ў цэнтралізаванай клубнай сістэме.

На экспазіцыі «Каларыт Маладзечанскага краю» прадстаўлены фотаздымкі з этнаграфічнай экспедыцыі па 20 населеных пунктах рэгіёна. Рэгіянальная кухня, абрады «Лука» і «абракання», маляваны дыван, вясельныя ручнікі і шмат іншых фота можна пабачыць ад 9 жніўня да 9 верасня. Выстава будзе працаваць перад уваходам ва ўстанову клубнай сістэмы ад 9 да 17 гадзін.

### Як сабралі выставу

У Год малой радзімы як ніколі актуальна звярнуцца да сваіх каранёў, сваёй спадчыны. Ад 10 да 16 чэрвеня вядучы метадыст па фальклоры цэнтралізаванай клубнай сістэмы **Вольга Трубач** разам з удзельнікамі этнаграфічнага клуба «Кола» і актывістамі з Мінска, Барысава і Бабруйска зладзілі этнаграфічную экспедыцыю па Маладзечанскім раёне. Яе мэтай было даследаваць матэрыяльную і нематэрыяльную традыцыйную культуру. Удзел прынялі 11 чалавек.

На працягу тыдня даследавалі 20 населеных пунктаў: Бортнікі, Пранчэйкава, Русалішкі, Сысуны, Кухары, Выдрычы, Гасцілы, Пятроўшчыну, Селеўцы, Рэдзькі, Гердуцішкі, Шалыгі, Кучкі, Скавародкі, Лебедзева, Готкавічы, Занкавічы, Беніцу, Дубрава, Маліноўшчыну.

Вынікам этнаграфічнай экспедыцыі стала інфармацыя, якую зафіксавалі:

абрад «Лука», спецыфічны для Маладзечанскага раёна, дзейнічае і на сёння;

музыкі раёна;

рэгіянальная кухня;

абраднасць: Купалле, Траецкія дзяды, Вялікдзень, Каляды;

сямейная абраднасць: вяселле – запісалі вясельныя песні;

абрад «абракання» падчас Другой сусветнай вайны;

народная проза: прыпеўкі;

танцы і іншае.

Зафіксавалі ўнікальныя артэфакты: маляваны дыван 1943 года ў вёсцы Кучкі, выраблены маладзечанскім майстрам **Сахутам**, а таксама вясельны імянны ручнік, які падарылі ў калекцыю Цэнтру традыцыйнай культуры і побыту Плябані. Таксама жыхары вёсак перадалі лубкі, саматканую тканіну, настольнікі, ручнікі.

**Надзея БОНДАР, цэнтралізаваная клубная сістэма.**

## Колькі сёлета будзе каштаваць сабраць дзіця ў школу

У гэтым годзе аптымальная экіпіроўка школьніка будзе каштаваць да 890 рублёў.

Пра гэта распавяла намеснік начальніка ўпраўлення арганізацыі гандлю і грамадскага харчавання начальнік аддзела спажывецкага рынку МАРТ **Наталля Мельнікава**.

**Яна адзначыла, што ўжо цяпер па ўсёй краіне тавары для школьнікаў прадае каля шасці тысяч гандлёвых аб'ектаў.**

Пашыраны гандаль школьнымі таварамі пачаўся ад 15 ліпеня і працягнецца да 1 кастрычніка.

У рэгіёнах працуе больш за 500 школьных кірмашоў, праходзяць выставы-продажы, па выхадных кірмашы. Там можна купіць усё неабходнае – ад алоўкаў да заплечніка і школьнай формы.

**Мінімальная адпускная цана камплекта адзення для хлопчыкаў малодшага і сярэдняга ўзросту – пінжак, штаны, сарочка – складае 69,7 рубля, а максімальная – 138,6 рубля.**

– У гэтым годзе аптымальная экіпіроўка, уключаючы адзенне, абутак, галантарэйныя тавары, школьныя пісьмовыя і канцылярскія прылады для вучняў малодшых класаў, абыдзецца ў суму да 750 рублёў, для старэйшых класаў – да 890, – распавяла Мельнікава.

Такія ж лічбы ў мінулым годзе агучваў першы намеснік міністра МАРТ **Артур Карповіч**. Ён казаў, што «ў 2018 годзе аптымальны варыянт абыдзецца бацькам школьнікаў малодшых класаў ад 145 да 750 рублёў, старэйшых – 214-890 рублёў».

**Паводле finance.tut.by.**




Фота Інстытута НАН Беларусі.

Знаходкі ў Гальшанах.

# Упрыгажэнні 10 стагоддзя знайшлі археолагі каля Гальшанаў

**Падчас археалагічных раскопак каля Гальшанаў знайшлі ўпрыгажэнні дзясятага стагоддзя, паведаміў карэспандэнту БЕЛТА кіраўнік экспедыцыі, навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Павел Кенько.**

АШМЯНЫ

– У гэтым годзе мы праводзілі раскопкі ў саміх Гальшанах і каля вёскі Шчапановічы. Даследавалі могільнік дзясятага стагоддзя. Мы знайшлі калектыўнае пахаванне чатырох мужчын і адной жанчыны. Пахаванне асабліва цікавае наборам рэчаў. Знойдзеныя скандынаўскія, славянскія, усходне-літоўскія, латгальскія і волжска-булгарскія артэфакты. У прыватнасці, мы знайшлі розныя ўпрыгажэнні дзясятага стагоддзя: бранзалеты, фігурныя накладкі, фібулы, жаночыя шыйныя грыўны, – сказаў Павел Кенько.

Пахаванне праводзілі па паганскім абрадзе. У той час загінулых воінаў спальвалі разам з маёмасцю – дзіды, сякеры, нажы, бранзалеты, фібулы, паясы. Нярэдка разам з мужчынамі хавалі іх жонак. Крэмацыю праводзілі непадалёк ад курганоў.

Раскладалі вялікае вогнішча, якое магло гарэць некалькіх гадзін. Пасля таго, як полымя згасала, косткі разам з попелам і апаленымі рэчамі пераносілі на спецыяльную падрыхтаваную пляцоўку і насыпалі над імі курган.

– Па сутнасці, гэта пахаванне адлюстроўвае напрамкі і дынаміку развіцця этнакультурных сувязяў насельніцтва беларускага Панямоння ў эпоху вікінгаў. Зыходзячы з досведу папярэдніх раскопак, мы можам меркаваць, што ў Гальшанах і Шчапановічах стаялі памежныя фарпосты, устаноўленыя на мяжы 10-11 стагоддзяў падчас ваенных паходаў кіеўскіх князёў Уладзіміра і Яраслава на Літву (усходнебалтыйскія плямёны)", – дадаў Кенько.

Ад 2007 года ў Гальшанах штогод працуе археалагічная экспедыцыя Інстытута гісторыі НАН Беларусі. У даследаваннях удзельнічаюць школьнікі з гістарычнага лагера «Кентаўры».

**Паводле БелТА.**

## Калі пачнецца сезон палявання на вадаплаўную і балотную дзічыну

**Ад другой суботы жніўня і да другой нядзелі снежня ў светлы час сутак можна паляваць на вадаплаўную і балотную дзічыну, акрамя гусей, на вальдшнэпа, вехіра, шызага голуба, перапёлку, фазана.**

Ад трэцяй суботы верасня і да другой нядзелі снежня ў светлы час сутак – на гусака белалобага, гусь-гуменніцу, гусь шэрую, казарку канадскую.

У абодвух выпадках можна паляваць ружэйным спосабам з засады, з падыходу, з пад'езда на маламерных суднах з выкарыстаннем гладкаствольнай паляўнічай зброі з патронамі са шротам; паляўнічых сабак усіх парод, акрамя ганчакоў і хартоў; маламерных суднаў без рухавіка або з непрацуючым рухавіком. Альбо безружэйным спосабам з выкарыстаннем лоўчых птушак.

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае: трымайцеся патрабаванняў правілаў палявання і бяспекі.

У адпаведнасці з законам за паляванне без належнага дазволу альбо ў забароненых месцах, у забаронены час, забароненымі прыладамі, забароненымі спосабамі прадугледжаны штраф у памеры ад 20 да 50 базавых велічынь. Таксама канфіскацыя прылад палявання і іншых прадметаў, якія з'явіліся прыладай альбо сродкам здзяйснення парушэння, або без канфіскацыі і з пазбаўленнем спецыяльнага права.

**Васіль ПАЎЛАЎ, старшы дзяржаўны інспектар Маладзечанскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**



Больш за ўсё цяпер прадаюць гародніну.

# На рынках прадаюць садавіну і гародніну. Грыбоў у лясах няма

**Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» шукала грыбы ў Маладзечне, але гандляры кажуць, што цяпер на прылаўках можна знайсці толькі ягады ці гародніну. Разабраліся, якімі прадуктамі гандлююць і чаму ў лясах засталіся адны лісічкі.**

### «Раніцай знайшла маленькі баравік»

Міні-рынак у Красным ці не самае пазнавальнае гандлёвае месца на трасе Маладзечна-Мінск. Менавіта тут стаяць гандляры кожны дзень з раніцы да вечара. На пачатку тыдня ахвотных няшмат: чатыры жанчыны ў адзінаццаць павольна раскладваюць гародніну з садавіной на паліцы.

– Не, грыбоў у нас няма, – кажа жанчына, да якой падышла спачатку. – Сёння раніцай у нас быў адзін баравік, а так толькі лісічкі і ніхто іх не збірае на продаж.

Гаворку пачулі іншыя гандляры і распавялі, што здарылася з грыбамі ў жніўні.

> **– Гэта я знайшла баравік, але адразу мы яго прадалі. Грыбы не шукайце: іх няма! Можа, у лесе знойдзеце лісічкі, але іншыя гнілыя ці з чарвякамі.**

У апошні час у Маладзечанскім раёне не было дажджоў, таму ў лясах суха. З-за гэтага колькасць грыбоў зменшылася, а хадзіць па лісічкі гандляры не хочуць.

### Ажыны, брусніцы і чарніцы

На паліцах у жанчын стаялі слоікі з ажынамі і чарніцамі. Гандляры кажуць, што цяпер гэта самы хадавы тавар з ягад.

На лаўцы сядзела сталая жанчына. У яе на прылаўку стаялі два слоікі з брусніцамі. Яна распавяла, што ёй ужо больш за 70 гадоў і ягады збіралі ўнукі. Пытаюся, а чаго яе адправілі прадаваць брусніцы, а не самі пайшлі на рынак.

– А яны мне прынеслі і кажуць, каб рабіла з імі ўсё, што я хачу: варэнне ці яшчэ што-небудзь. А я вырашыла прадаць!

### Гародніна пераважае астатнія прадукты

– Прачынаемся ў шэсць гадзін, ідзём у гарод, а потым сюды, – распавядае жанчына, якая знайшла баравік, і паказвае на прылаўкі мінірынку. – Нас няшмат, некаторыя на працы цяпер.



Брусніцы, якія назбіралі ўнукі гандляркі.

Жанчыны кажуць, што самы выгадны дзень для гандляроў і пакупнікоў – нядзеля. Гандлююць ад пачатку дарогі, тавару таксама тады больш. Але часам дзень тыдня не так і важны: пакупнікам заўсёды нешта трэба.

Каля гандляроў машыны спыняліся часта. Ягады не бралі, а гароднінай цікавіліся больш. Пакуль мы размаўлялі з жанчынамі пра ўмовы працы і колькі патрабуецца часу, каб сабрацца на рынак, пад'ехаў пакупнік. Мужчына з дзяўчынкай выйшлі з джыпа і падышлі да прылаўкаў.

– Глядзіце, якія ў нас ажыны! Бярыце, бярыце!

Гандляры спрабуюць хутчэй прадаць ягады, але мужчына адмаўляе, кажа, што ў яго свае ёсць. Яго зацікавілі памідоры, якіх ён набраў поўны пакет. Акрамя памідораў на прылаўках процьма морквы, гарбузоў, цыбулі, часнаку і кабачкоў. Асобна стаяць вёдры з бульбай розных гатункаў.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 31.07 | 8.08 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0348 | 2.0487 |
| Еўра | 2.2668 | 2.2927 |
| Злоты, 10 | 5.2855 | 5.3073 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2120 | 3.1481 |
| Грыўня, 100 | 8.1166 | 8.0681 |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 31.07 | 7.08 |
| Еўра | 2.2600/2.2800 | 2.2800/2.3050 |
| Долар ЗША | 2.0300/2.0400 | 2.0400/2.0570 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 31.07 | 7.08 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | 19,80 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,40 | 3,85 |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | 7,37 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | 10,00 |
| Карп жывы, 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | 15,60 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | 1,45 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | 1,85 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 4,80 |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | 2,20 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | 1,40 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | 1,80 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,30 | 1,50 |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | 1,30 |
| Баклажаны, 1 кг | 1,90 | 1,50 |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | 1,00 |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | 0,80 |
| Кабачок, 1 кг | 0,70 | 0,70 |
| Капуста, 1 кг | 0,90 | 1,00 |
| Морква, 1 кг | 1,20 | 1,00 |
| Лісічкі, 500 мл | 2,50 | 2,00 |
| Памідоры, 1 кг | 1,50 | 1,30 |
| Перац, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,50 | 1,30 |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Абрыкосы, 1 кг | 2,80 | 2,80 |
| Бананы, 1 кг | 2,95 | 2,70 |
| Брусніцы, 500 мл | – | 2,00 |
| Вінаград, 1 кг | 4,90 | 3,95 |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | 1,80 |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | 0,69 |
| Грушы, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Слівы, 1 кг | 2,80 | 2,30 |
| Чарнасліў, 1 кг | – | 2,30 |
| Чарніцы, 500 мл | 2,00 | 2,00 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | 1,70 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 15,00 | 15,00 |
| Сала, 1 кг | 12,50 | 12,50 |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | 12,00 |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | 7,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## Мужчыну патрапілі стралой у шыю

АСТРАВЕЦ

Астравецкі раённы аддзел Следчага камітэта прыняў да вытворчасці крымінальную справу, узбуджаную пракуратурай раёна па факце прычынення цяжкіх цялесных пашкоджанняў па неасцярожнасці.

Трэцяга жніўня каля 17 гадзін у лесе каля Астраўца падчас стральбы з лука па мішэні траўмавалі стралой у шыю 41-гадовага мясцовага жыхара. Мужчыну шпіталізавалі. У злачынстве падазраюць яго 23-гадовага знаёмага, якога затрымалі.

Справу расследуюць.

**Следчы камітэт.**

## Дзяўчына шукае сведкаў ДТЗ каля Красоўшчыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Аліна Сівіцкая** распавяла «Рэгіянальнай газеце», што шукае сведкаў ДТЗ, якое адбылося 4 жніўня прыкладна ў 17:27 каля населенага пункта Красоўшчына па дарозе Маладзечна – Мінск.

– Ехалі з Маладзечна ў Мінск. На сустрэчную паласу рэзка выехала машына. Часу да лабавога сутыкнення заставалася мала, таму пачала рэзка тармазіць, – расказвае Аліна.

Яна кажа, што машыну пачало кружыць, у выніку вылецелі ў кювет. Пасажыры і кіроўца цудам засталіся жывыя.

– Ні ў каго не было рэгістратара, запомнілі толькі марку і колер, – дзеліцца дзяўчына.

Citroen Berlingo цёмна-сіняга колеру – машына з'ехала з месца ДТЗ.

– Дзяржаўтаінспекцыя сказала шукаць людзей, якія, магчыма, ехалі ў гэты час у гэтым населеным пункце. Шукаем любую магчымасць знайсці вінаватых, – расказала Аліна «Рэгіянальнай газеце».

Звязацца з Алінай можна праз профіль у інстаграме **alina_sivitskaya.**

**Настасся УТКІНА.**

## У краме знайшлі небяспечны дзіцячы абутак

АСТРАВЕЦ

Аддзел дзяржаўнага нагляду Гродзенскай абласной інспекцыі Дзяржстандарту пры правядзенні праверкі і лабараторных даследаванняў выявіў небяспечны дзіцячы абутак кітайскай вытворчасці. Яго прадавалі ў адным з гандлёвых аб'ектаў у Астраўцы.

Падкладка макасінаў «Калабок» і GFB, а таксама басаножак «М.Мічы» і «Міфер», прызначаных для дзяцей ясельнага ўзросту, аказалася са штучнай скуры, хоць маркіроўка паказвала на тое, што яна зробленая з тэкстылю.

Не дапускаецца выраб падкладкі закрытага абутку для дзяцей усіх узростаў і падкладкі адкрытага абутку для дзяцей ясельнага ўзросту са штучнай скуры.

Штучныя або сінтэтычныя матэрыялы можна выкарыстоўваць у якасці матэрыялу верху ў летнім, вясновым і восеньскім абутку для дзяцей ясельнага ўзросту, калі падкладка абутку выкананая з натуральных матэрыялаў.

**УУС Гроднааблвыканкама.**

## Злавілі, калі перавозілі ў таксі макавую саломку

МАЛАДЗЕЧНА

У прыгарадзе Маладзечна аператыўнікі спынілі таксі. У салоне знаходзілася трое пасажыраў. Праваахоўнікі знайшлі поліэтыленавы пакет з забароненым зеллем – макавай саломай, з якога вырабляюць наркотыкі. Вага зелля каля 700 грамаў.

Падазроны багаж, пакет з рэчывам раслiннага паходжання, належаў аднаму з трох пасажыраў, а менавіта 31-гадоваму маладзечанцу. На таксі маладыя людзі накіроўваліся дадому, каб самастойна зварыць опіум.

Раней фігурант прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за незаконны абарот наркотыкаў.

Не менш цікавымі аказаліся асобы астатніх у аўтамабілі. У аднаго ў біяграфіі была судзімасць за маёмаснае злачынства, другі два тыдні таму вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі. У прымусовым парадку яго выслалі за межы краіны з забаронай уезду на 10 гадоў. Аднак гэта яго не спыніла. Яму пагражае пазбаўленне волі да трох гадоў.

Спецыфіка макавага рамяства выдала яшчэ аднаго жыхара Маладзечна, які варыў наркотык дома. На лінію 102 паступіла паведамленне ад мясцовых жыхароў, што з вокнаў другога паверха шматкватэрнага дома па вуліцы Валынца разносіцца рэзкі пах растваральніка.

Беспрацоўнага 43-гадовага мужчыну байцы затрымалі проста каля пад'езда. Пры асабістым вобшуку ў зламысніка ў заплечніку знайшлі пакет з макавай саломкай, маса якой 1776 грамаў, і растваральнік.

**Юлія КРУК, афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС.**




Аўтадарога ля Мясаты.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

# Пасля жудаснай аварыі ў Мясаце паклалі ляжачага паліцэйскага

## І абмежавалі хуткасць

МАЛАДЗЕЧНА

**На аўтадарозе Р28 Мінск-Маладзечна-Нарач з'явілася новая штучная няроўнасць. Ляжачага паліцэйскага днямі ўсталявалі ў вёсцы Мясата Маладзечанскага раёна.**

Элемент прымусовага зніжэння хуткасці сумясцілі з пешаходным пераходам, ля якога 5 ліпеня адбылося рэзананснае ДТЗ са смяротным зыходам.

Таксама на пад'ездзе да Мясаты з боку Маладзечна з'явілася абмежаванне хуткасці 80 км/гадз, у населеным пункце – 60 км/гадз, а паблізу ляжачага паліцэйскага – 40 км/гадз.

Раней на тэрыторыі Мясаты па дарозе Р28 дзейнічала абмежаванне хуткасці 90 км/гадз – на ўездзе ў населены пункт устаноўлены дарожны знак 5.24 "Пачатак мяжы населенага пункта", пры руху па якім на дадзенай дарозе не дзейнічаюць спецыяльныя патрабаванні Правілаў дарожнага руху, якія ўстанаўліваюць парадак дарожнага руху ў населеных пунктах.

Як распавёў «Рэгіянальнай газеце» старшы інжынер па арганізацыі дарожнага руху Маладзечанскай дзяржаўтаінспекцыі **Віталь Лужынскі**, пасля кожнага такога здарэння праводзяць абследаванне ўчастка дарогі, дзе адбылося ДТЗ. Па яго выніках прымаюць адпаведныя меры. У дадзенай сітуацыі, па словах Віталя Лужынскага, усталявалі ляжачага паліцэйскага і ўвялі абмежаванне хуткасці па супольнай ініцыятыве Дзяржаўтаінспекцыі Мінскай вобласці і Маладзечанскай ДАІ.




Знакі на ўездзе ў Мясату з боку Маладзечна.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

**Таксама нядаўна з'явілася новая штучная няроўнасць на вуліцы Магістральнай у Маладзечне.**

Як распавёў Віталь Лужынскі, канструктыўнае абмежаванне хуткасці ў зоне пешаходнага перахода спатрэбілася, бо тут адбылося ДТЗ, у выніку якога пацярпеў пешаход.

**Ігар ПАЛЫНСКІ.**

# Участковы міліцыянер выратаваў на пажары мужчыну

СМАРГОНЬ

**На днях участковы інспектар Смаргонскага райаддзела міліцыі капітан Аляксандр Шчасны выратаваў чалавека.**

У той дзень капітан міліцыі быў на абслуговым участку ў Залессі. У 19:45 яму патэлефанавалі з дзяжурнай часці і паведамілі, што ў гэтай вёсцы гарыць дом.

Участковы адправіўся на месца і ўбачыў, што з вокнаў ідзе густы чорны дым. Разумеючы, што бліжэйшая пажарная часць наблізка, увайшоў у дом, закрыўшы мокрай анучай рот і нос.

Адкрытага гарэння не было, але дом ахутаў усе пакоі. У адным з іх міліцыянер знайшоў 28-гадовага мужчыну без прытомнасці. Шчасны вынес пацярпелага на вуліцу і дапамог апрытомнець. Пасля вярнуўся ў дом, каб упэўніцца, што там няма іншых людзей.

Унутры больш нікога не было. Да прыезду медыкаў пацярпелы цалкам прыйшоў у сябе.

Пазней высветлілі прычыну задымлення – пацярпелы вечарам запаліў печку, але цалкам не адкрыў засланку коміна. Праз некалькі хвілін страціў прытомнасць з-за чаду.

**УУС Гроднааблвыканкама.**



Вацлаў на фоне графіці мастака Базіната на вуліцы стрыт-фуда ў Маладзечне.

# «Графіці – гэта па-еўрапейску». Хлопец з Чэхіі ўпершыню завітаў у Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Ядзерны фізік і вандроўнік-пачатковец Вацлаў Шысл завітаў у Беларусь на тыдзень.**

«Рэгіянальная газета» пазнаёміла чэха з Маладзечнам, а ён распавёў пра ўражанне ад вандроўкі з сябрам у вёску, беларускай культуры і беларусаў. З Вацлавам размаўлялі на англійскай мове, але часам ён устаўляў рускія словы ў гаворку.

### Маршруткі, беларусы за рулём і шырокія вуліцы

Вацлаў прыехаў у Маладзечна на маршрутцы. Такога грамадскага транспарту паміж гарадамі ён не бачыў у Чэхіі і ўвогуле ў Еўропе. Там, па яго назіраннях, людзі пераважна карыстаюцца цягнікамі. У Швейцарыі гэта самы папулярны сродак перамяшчэння. На думку чэха, маршрутка – гэта добрая альтэрнатыва для Беларусі.

– У вас добрыя кіроўцы. Саступаюць дарогу іншым, не падразаюць, паважана сябе вядуць, – падзяліўся мерканаваннем Вацлаў.

Неблагія дарогі і паводзіны кіроўцаў – гэта адметная прыкмета беларусаў, лічыць Шысл.

Кажа, што ён цяпер можа адрозніць беларуса ад рускіх.

– Рускія кіроўцы паводзяць сябе на дарозе па-іншаму. Не буду казаць за ўсіх, але мне падабаецца, што ў беларусаў зусім іншая культура кіравання. Заўважыў гэта, калі ехаў у Маладзечна, і ў самім горадзе, – тлумачыць Вацлаў.

### Беларускія гарады адрозніваюцца ад еўрапейскіх

Першае, што заўважыў Вацлаў у Маладзечне, – такія ж шырокія вуліцы, як і ў Мінску. Такая з'ява таксама нетыповая для Заходняй Еўропы. Вацлаў упэўнены, што ўсе беларускія гарады выглядаюць гэтаксама прасторна, як Маладзечна. У той жа час ён не разумее, чаму беларускія гарады не будуюць з маленькімі вуліцамі, дзе будзе камфортна і пешаходам, а не толькі кіроўцам і ўладальнікам машын.

> **– У Чэхіі не так плануюць гарады. У нас няма такіх шырокіх вуліц. Калі вы прыедзеце ў Прагу ці пагледзіце фотаздымкі, то ўбачыце, якая атмасферная гарадская прастора.**

Цяпер Маладзечна нельга ўявіць без вуліцы стрыт-фуда. Таму Вацлаў з задавальненнем пагадзіўся пачаставацца вулічнай ежай. Чэх зацікавіўся, як зрабілі такі праект і якім чынам праекты дапамагаюць развіццю горада. Асабліва яму спадабаліся графіці, пра якія ён сказаў, што яны выглядаюць па-еўрапейску.

### «На прыступках сядзець можна?»

– Я бачыў у Мінску помнік Леніну, у вас нават станцыя метро так называецца. А ў Маладзечне «дзядушка Ленін» ёсць? – спытаў Вацлаў

Ён лічыць, што пра краіну трэба даведвацца праз яе гісторыю. Чэхія таксама была ў складзе краін сацыялістычнага блока, і паміж Беларуссю і Чэхіяй можна праводзіць гістарычныя паралелі. Помнікі Леніну як адбітак камуністычнага мінулага добра паказваюць, як былі звязаныя краіны і чым адрозніваюцца цяпер.

– А ў Маладзечне ля Леніна на прыступках сядзець можна?

Побач з парламентам у Мінску ёсць помнік Леніну. Вацлаў кажа, што яму не дазволілі пасядзець на прыступках парламента. Ахоўнік паспрабаваў нешта растлумачыць. Чэх зразумеў толькі тое, што там сядзець забараняюць, а чаму – невядома.

У Чэхіі таксама ёсць помнікі Леніну. Некаторыя дэмантавалі пасля 1989 года, калі пачаўся працэс дэкамунізацыі, але ў некалькіх чэшскіх гарадах яны засталіся.

### «Едзь у вёску – там убачыш Беларусь»

Вацлаў Шысл прыехаў у Беларусь да сябра, які родам з Астраўца. Яны разам вучыліся ў Летняй школе ў Празе па праграме ядзернай фізікі.

> **Сябар Слава зладзіў для Вацлава экскурсію па Беларусі: яны былі ў Астраўцы, Полацку і наведалі вёску ў Віцебскай вобласці.**

– Мне кажуць: едзь у вёску – там убачыш сапраўдную Беларусь. Мы разам са Славам паехалі на радзіму яго бацькоў. Пабачыў там зусім іншую КРАІНУ Беларусь, – распавядае Вацлаў.

Беларуская вёска асацыявалася ў чэха з тым, што людзі будуць піць з самай раніцы. Такі стэрэатып склаўся з-за таго, што Беларусь і Расія ў яго ўяўленні маюць адзіную культуру, а рускія людзі п'юць шмат.

> **– Ехаў з думкай, што буду піць з раніцы да ночы. Так не адбылося, але самагонкай пачаставалі. Людзі працуюць, расказваюць пра цікавыя рэчы і шмат пра гісторыю.**

Вельмі ганарацца сваёй гаспадаркай і вёскай.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ВІНШАВАНКА

**Галіне Сямёнаўне КУПРЫЯН з Маладзечна**

**З юбілеем!**

*Красивой женщине мы годы*
*не считаем,*
*Сердечно с юбилеем*
*поздравляем!*
*И красоту желаем не терять,*
*А вместе со здоровьем*
*умножать!*
*Света, доброго веселья,*
*Поздравляем с днём рождения!*

**З найлепшымі пажаданнямі ад мужа, сына, дачкі і ўнука.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• Мазда 323F, 1993 г.в., 1,6 бензін. Т. (8-029) 8610280.*

• Мерсэдэс МВ-100 па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Ніва, 2005 г.в., 3-дзверная. Новая АКБ, гума. Цалкам абслужаная. Тэл. (8-029) 1313124.*

• Пежо 407, 2,0 бензін, аўтамат, бардовы, добры стан, 11 300 рублёў. Т. (8-029) 6922421.

• Пежо-405, 1994 г.в., 1,8 Б/Газ. Не патрабуе ўкладанняў. Т. (8-029) 6553719.*

• Сітраэн-Ксара,1999 г.в., 1,9 дызель, купэ, цана 4 000. Т. (8-033) 6808429.*

• Таёта-Карола, 2016 г.в., 1,4Б, чорная. Т. (8-029) 3063523.

• Фольксваген-Гольф па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто. Можна аварыйнае! Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

• Матацыклы старыя і запчасткі – К-750, Ява, Іж, Мінск. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў вёсцы Гарадзілава. Цана 21 000 рублёў. Т. (8-029) 9406199.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 3-пакаёвая кватэра. Тэрмінова! Падрабязнасці па тэлефонах (8-029) 6888111, (8-029) 6333777.*

• Гараж з падвалам у ГБК-2, Вілейка. Т. (8-029) 5650208.*

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом драўляны ў Смаргоні, 500 м ад чыгуначнага вакзала, участак 19 сотак, водаправод, пячное ацяпленне. Т. (8-029) 5912004.*

• Дом недабудаваны з гаспадарчымі пабудовамі ў Астраўцы. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна Іжанскага с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513686.

• Дом у в.Грыцкі Вілейскага раёна, 7 км ад Вілейкі, участак зямлі 0,25 га. Недалёка вадасховішча, лес. Т. (8-029) 3262613.*

• Дом у вёсцы. Частковыя выгоды. Т. (8-029)7632306, (8-0176) 723235 дамашні.*

• Дом у Вілейцы з усімі выгодамі. Т. (8-029) 7609173.*

• Дом у Маладзечне на вул. Велікасельскай, 0,1 га, газ, вада. Т. (8-033) 6393440.*

• Дом у Чаевіцах Палачанскага с/с. Т. (8-029) 5071096.

• Участак 19 сотак, прыватызаваны, ёсць лазня, падмурак для дома. Станцыя Татаршчызна, чацверты прыпынак ад Маладзечна. Тэл. (8-029) 1313124.*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Абітурыент. Біялогія. Хімія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*



• Бурэнне свідравін (скважин) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп'ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка 4-радная, альбо абмяняю, фрэза для МТЗ – 1,5 м захват. Т. (8-044) 5542855.

• Трактар Т-40 з прычэпам. Т. (8-029) 8658044.

**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова на выбар у Ілы. 5 год і 2 гады. Абедзве пакрытыя. Т. (8-029) 9803034.

• Козачкі, 5 месяцаў, нядорага. Т. (8-033) 3418019.*

**Іншае**

• Дровы колатыя, калодкі. Ваш памер. Т. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. Вэлком (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Пліты перакрыцця б/у, 1,5х6 м, 2 шт. Т. (8-029) 1419072.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

### ЗГУБЛЕНА

• Згублены ключ ад машыны ў бардовым чахле. Просьба да таго, хто знойдзе чахол, вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-0176) 532838, Вэлком (8-029) 3888224.

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Сям'і ў прыватны дом пад Мінскам патрабуецца домработніца. Ад 45 гадоў. Ёсць добрыя ўмовы для пастаяннага пражывання. Аплата 700 руб. Т. (8-029) 6611999.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу дома. Т. (8-029) 5019550.*

# «У мяне слёзы каціліся ад шчасця». Дзяўчынцы з Нарачы патрэбная дапамога

МЯДЗЕЛ

**Я як мама вельмі перажываю за дачку. Устаю з думкамі аб рэабілітацыі і кладуся з гэтымі думкамі. Каб дапамагчы дачцэ, самім нам грошай не сабраць. Любая дапамога для нас вельмі дарагая.**

### Для чаго неабходная дапамога

Дыягназ Сашы: ДЦП, спастыка-атактычная форма 3 ступені цяжкасці, спастычны тэтрапарэз, спастычны падвывіх галовак сцёгнаў, плоска-вальгусная дэфармацыя ступняў. Затрымка маўленчага развіцця. Страта здароўя самая складаная, 4 ступені.

Сума, неабходная для курса ў цэнтры інтэнсіўнай тэрапіі «Олінэк» у Варшаве, Польшча, – 5280 злотых за лячэнне, 1560 злотых за пражыванне і 300 рублёў за праезд.

Агулам трэба сабраць 1950 еўра.

Пакуль сабралі толькі 365 еўра. Засталося сабраць 1585 еўра і 280 долараў на лекі. Гэта вялікая сума для нас, адным нам не справіцца.

На лекі трэба 280 долараў, гэта 7950 грыўняў. Лекі ўкраінскія, уколы 10 штук па 2 мл.

Сашачцы неабходна прайсці чарговы курс рэабілітацыі ў цэнтры інтэнсіўнай тэрапіі «Олінэк» ад 16 да 27 верасня. Аванс у 200 еўра аплацілі, усе дакументы ёсць. Медыкаментознае лячэнне Сашы неабходна пачаць праз месяц.

За мінулы перыяд рэабілітацыі Сашачка добра ўмацавала рукі і спіну. Робіць крокі з падтрымкай на хадунках, ужо без дапамогі тэрапеўта часам атрымоўвалася прайсці самой у хадунках. Мы былі ў захапленні! Хаця гэты скачок можа некаторым падавацца нязначным, у мяне слёзы каціліся ад шчасця.

У канцы рэабілітацыі здымалі відэа дасягненняў Сашкі пры хадзьбе. Паволі асвойваем бегавую дарожку і веласіпед. Наш тэрапеўт Матэвуш быў задаволены поспехамі Сашы. Тэрапеўты, якія займаліся з ёй раней, а мы былі ў цэнтры шэсць разоў, захапляліся Сашай. Фізіятэрапеўт сказаў, што такой працавітай дзяўчынкі яшчэ не сустракаў.

Саша выконвала ўсе заданні, часам злавалася, калі не атрымоўвалася, але цвёрда ішла да мэты. Сашка адужэла. На вераснёўскай рэабілітацыі будзем умацоўваць ножкі – дзе ўмацоўваць, дзе расслабляць. Будзем спрабаваць стаяць каля падтрымкі.

### Якія дасягненні ў Сашы

У красавіку зрабілі ёй новыя артэзы, спецыяльна па яе ножцы. У артэзах яна лепш становіцца і робіць крокі больш упэўнена. Без артэзаў нам ніяк не абысціся. Цана немаленькая, 900 еўра. З артэзамі вельмі добра займацца як дома, так і на вуліцы. Асвойваем спецыялізаваны ровар. Сашка гэта любіць, толькі педалі круціць пакуль не навучылася.

Мы вельмі задаволеныя такім прагрэсіўным курсам. Купілі хадункі менавіта для яе. Узялі больш складаныя, не локцевыя. На прамых руках складана ісці. Рукі ў Сашкі мацнейшыя, чым ножкі.

Пальчыкі на ручках ужо разгінаюцца, дробная маторыка добрая. На тэрапіі рук Сашку навучылі знімаць і надзяваць футболку, і дома яна імкнецца зрабіць гэта сама. Яна нікому не дазваляе дапамагаць, паволі ўсё спрабуе сама. Гэта вялікі прагрэс. І шкарпэткі спрабуе надзець сама, і штонікі.

Саша разумее ўсю гаворку, ведае ўсе колеры, з задавальненнем займаецца з лагапедам у карэкцыйным цэнтры і дома з мамай і старэйшай сястрычкай. Вельмі любіць гуляць з дзеткамі.

Дзякуючы нейралагапеду ў Польшчы навучылася расказваць вершы па малюнках, не гаворачы пры гэтым. Гэта такі метад для дзяцей, якія не могуць размаўляць.

Тазасцёгнавыя суставы вельмі хвалююць. Пакуль падвывіхі, калі будуць вывіхі, спатрэбіцца аперацыя, гэта вельмі цяжка. Вырашылі з артапедам усё на лепшае.

З мовай у Сашы праблемы. Гаворыць толькі «мама» і нешта па-свойму. Сліна вельмі цячэ. Пакуль з гэтым справіцца нам не атрымоўваецца ніяк.



Наша Сашка – сапраўдны баец!

### Колькі мы зрабілі за дзевяць год

Усе гэтыя дзевяць гадоў мы змагаемся з хваробай і дасягнулі многага.

Саша сама можа есці, навучылася сядзець і садзіцца таксама сама, злазіць пры дапамозе рук, а не на локцях, куды трэба, дапаўзае. Есць усё. Любіць займацца фізкультурай дома з мамай і сястрой. Вельмі стараецца зрабіць усё па магчымасці.

Мы лячыліся з Сашай у Бараўлянах, у Мінску. Прайшлі сем рэабілітацый ва Украіне ў Трускаўцы, у клініцы Казяўкіна. Былі двойчы на дэльфінатэрапіі. Лячыліся і лечымся дарагімі медыкаментамі, якія заказваем у Польшчы, Германіі, Украіне. Прайшлі шэсць курсаў рэабілітацыі ў цэнтры «Олінэк» у Варшаве.

Сашка ў нас Баец з вялікай літары!

Бывае, у мяне так балюча на душы. Абдыму яе, пагляджу на ўсмешку – і адразу становіцца лягчэй. Яна смяецца, і нашыя сэрцы напаўняюцца шчасцем. Часам думаю: колькі сілы волі, колькі старання ў гэтым маленькім чалавечку!

**Наталля МАЦКЕВІЧ,**
**Мядзел.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

### Як дапамагчы

**Адрас Аляксандры Якушэнкі: Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к. п. Нарач, вуліца Кастрычніцкая, 33/32. Тэлефон: 8 (01797) 25-192.**

Рэквізіты для дапамогі:

**WEBMONEY:**

E337275010761 – еўра; Z327686281157 – долары; R194764232739 – расійскія рублі; B411825951365 – беларускія рублі.

**Дабрачынныя рахункі** адкрытыя ў цэнтры банкаўскіх паслуг ААТ «АСБ Беларусбанк»: Мядзел, вул. Набярэжная, 4. УНП 600198997, МФО 153001769, БІК AKBBBY21601. Беларускія рублі – транзітны рахунак №BY20AKBB38193821903436100000 на дабрачынны рахунак №BY96 AKBB 3134 0000 0509 5612 0619BYN у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

**Расійскія рублі** – транзітны рахунак №BY25AKBB38193821084106100000 на дабрачынны рахунак №BY07 AKBB 3134 0000 0508 8612 0619 RUB у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

**Долары ЗША** – транзітны рахунак №BY25AKBB38193821084106100000 на дабрачынны рахунак №BY67 AKBB 3134 0000 0508 4612 0619USD у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

**Еўра** – транзітны рахунак №BY25AKBB38193821084106100000 на дабрачынны рахунак №BY36 AKBB 3134 0000 0509 9612 0619EUR у цэнтры банкаўскіх паслуг №619, бестэрміновы.

**Прызначэнне плацяжу:** Мацкевіч Наталля Рыгораўна на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Якушэнкі Аляксандры Паўлаўны.

**Нумар МТС для папаўнення баланса:** +37533 381 66 21 зарэгістраваны на Наталлю Мацкевіч.

**Беларусбанк карта MasterCard** 5470 8700 4571 8752 да 05/22 дзейнічае ва ўсіх краінах. Афармленая на маму Сашы Мацкевіч Наталлю Рыгораўну.

**PayPal** anelamackiewich@gmail.com.

## Беларусь 1

**6.30** «Існасць».

**6.55, 21.45** Х/ф **«ЖЕНА ПО ОБМЕНУ».**

**8.25** Кулинарная дипломатия.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Маршрут построен».

**9.50** «Здоровье».

**10.45** «Дача» [СТ].

**11.25** «Истории спасения».

**12.10** «Дело жизни. Возрождение». Хроникально-документальный телефильм.

**12.35** Т/с **«НЕРАСКРЫТЫЙ ТАЛАНТ 3».**

**14.20** «Твое место на кухне».

**15.15** «Краіна».

**15.45** Т/с **«СЛЕД».**

**16.40** Х/ф **«ПРОШУ ПОВЕРИТЬ МНЕ НА СЛОВО».**

**21.00** «Панорама».

**0.55** «День спорта».

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«СТОМАТОЛОГ».**

**8.45, 21.55** «Телебарометр».

**8.55** Х/ф **«МАДАГАСКАР».**

**10.10** «Верю не верю». Трэвел-шоу.

**11.10** «Кто я?».

**11.30** «Копейка в копейку».

**12.05** Камень, ножницы, бумага.

**12.40** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**13.35** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**14.30** Х/ф **«ЗНАКОМСТВО С РОДИТЕЛЯМИ».**

**16.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.25** «До свидания». Реалити-шоу.

**18.10** Х/ф **«НЕПРИСТОЙНОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ».**

**20.05** Х/ф **«ОГРАБЛЕНИЕ ПО-ИТАЛЬЯНСКИ «.**

**22.00** «Спортлото 6 из 49», КЕНО.

**22.05** Х/ф **«ДЖЕК РИЧЕР 2: НИКОГДА НЕ ВОЗВРАЩАЙСЯ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.30, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.50, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Дзяўчына без адрасу». Мастацкі фільм.

**10.00** «Жывая культура». Традыцыйнае мастацтва маляваных дываноў Віцебскага Паазер'я.

**10.25** «Беларуская кухня». Зуцы.

**10.50** «Апошні бой маёра Пугачова». Мастацкі фільм.

**14.05** «Навукаманія».

**14.55** «Алмазы для Марыі». Мастацкі фільм.

**16.10** «Дзесяць фатаграфій». Валерый Сюткін.

**16.50** «Славянскі базар у Віцебску-2009». Надзея Кадышава і ансамбль «Золотое кольцо».

**18.05** «Балада пра салдата». Мастацкі фільм [СТ].

**19.35** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць — пісьменніца Людміла Шчэрба.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Дзе знаходзіцца нафелет?» Мастацкі фільм.

**22.25** Юбілейны канцэрт Беларускага народнага аркестра Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** Х/ф **«ДЕВУШКА С ГИТАРОЙ».**

**9.10** «Людмила Гурченко. Карнавальная жизнь».

**10.50** Х/ф **«КАРНАВАЛЬНАЯ НОЧЬ».**

**12.20** Т/с **«НЕ УХОДИ».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**17.50** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ».**

**23.05** Х/ф **«ЕСЛИ ТОЛЬКО».**

## СТВ

**6.10** «Легенды СССР».

**7.45** «Анфас».

**8.05** «Самая полезная программа».

**8.55, 11.05** Документальный проект.

**10.00** «Минск и минчане».

**10.35** «Центральный регион».

**12.25, 13.40, 16.40** Т/с **«АГЕНТ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ спорт».

**20.05** «Засекреченные списки».

**23.00** Т/с **«БЫВШИХ НЕ БЫВАЕТ».**

## Мир

**6.00, 6.25, 7.55, 5.40** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.55** «Такие разные».

**7.20** «Секретные материалы».

**8.55** «Ой, мамочки!».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** Х/ф **«ВАС ОЖИДАЕТ ГРАЖДАНКА НИКАНОРОВА».**

**12.35, 16.15** Т/с **«ПОРОКИ И ИХ ПОКЛОННИКИ».**

**17.20, 19.15** Т/с **«ЗАКОН ОБРАТНОГО ВОЛШЕБСТВА».**

**22.15** Х/ф **«ИГРА В ЧЕТЫРЕ РУКИ».**

**0.20** Т/с **«НАЙТИ МУЖА ДАРЬЕ КЛИМОВОЙ».**

**4.00** Х/ф **«ВОЛГА-ВОЛГА».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.25** «Готовим с Алексеем Зиминым».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by».

**8.50** «Врачебные тайны плюс».

**9.25** «Города Беларуси».

**10.25** Главная дорога.

**11.10** «Еда живая и мёртвая».

**12.00** Квартирный вопрос.

**13.05** «Поедем, поедим!».

**14.05** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.25** «Следствие вели…».

**19.20** Т/с **«ШЕФ».**

**22.45** Х/ф **«ОТЦЫ И ДЕДЫ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».

**10.00** «Сто к одному».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Пятеро на одного».

**12.10** «Наше дело».

**12.25** Х/ф **«КРАСОТКА».**

**14.20** «Смеяться разрешается».

**15.55** Х/ф **«УКРОТИТЕЛЬНИЦА ТИГРОВ».**

**17.50, 20.55** Х/ф **«ПОДМЕНА В ОДИН МИГ».**

**19.45** «Плюс минус».

**22.20** Х/ф **«СЕРЕБРЯНЫЙ ОТБЛЕСК СЧАСТЬЯ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10** Призрак оперы. **9.10** Обещание. **12.00** Малавита. **14.10** Голос монстра. **16.15** Области тьмы. **18.10** Свадьба лучшего друга. **20.10** Бойфренд из будущего. **22.25** Социальная сеть. **0.40** Резня. **2.10** Леди Макбет. **3.40** Пианист.

### TV1000 ACTION

**7.10** Убить Билла. **9.40** Телохранитель. **11.30** Гудзонский ястреб. **13.25** Падение Олимпа. **15.40** Женщина в чёрном. **17.25** Агент Джонни Инглиш: Перезагрузка. **19.20** Ямакаси: Свобода в движении. **21.05** Убить Билла 2. **23.40** Овердрайв. **1.25** Смертельная гонка. **3.15** Бессонная ночь. **5.10** Реальные парни.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Любовь в большом городе 2. **8.20** Тёмный мир. **10.30** Духless 2. **12.40** Черная курица, или Подземные жители. **14.00** 9 рота. **16.35** Частное пионерское 2. **18.30** Спасти Ленинград. **20.20** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **22.15** Каникулы президента. **0.05** Русский Бес. **2.00** Любовь под прикрытием. **3.45** Килиманджара. **5.05** Тесты для настоящих мужчин.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.45, 11.30, 12.30** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.30** Х/ф **«ЗЛОВЕЩИЕ МЕРТВЕЦЫ: АРМИЯ ТЬМЫ». 15.15** Х/ф **«ПОЛТЕРГЕЙСТ». 17.15** Х/ф **«ШКАТУЛКА ПРОКЛЯТИЯ». 19.00** Х/ф **«УИДЖИ: ДОСКА ДЬЯВОЛА». 20.45** Х/ф **«УИДЖИ: ПРОКЛЯТИЕ ДОСКИ ДЬЯВОЛА». 22.45** Х/ф **«КОЛДУНЬЯ». 0.45** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ МИМЗИ ВСЕЛЕННОЙ». 2.45** Х/ф **«ПРОКЛЯТИЕ ДЕРЕВНИ МИДВИЧ». 4.15, 4.45, 5.15, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ». 12.00, 13.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 14.00** Предлагаемые обстоятельства. Богатый наследник. 1 с. **15.00** Предлагаемые обстоятельства. Богатый наследник. 2 с. **20.00, 21.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 22.00, 23.00** Т/с **«ПРИИСК 2». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 6.00, 7.00** Т/с **«ПОД БОЛЬШОЙ МЕДВЕДИЦЕЙ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.05, 17.30** Х/ф **«УПРАВЛЕНИЕ ГНЕВОМ». 1.50** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ ОХОТЫ». 3.30** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ РЫБАЛКИ». 5.05** Х/ф **«ЛЮБОВНОЕ БЕЗУМИЕ». 6.45** Х/ф **«ЭТО ВСЕ ОНА». 8.35** Х/ф **«МАСКА ЗОРРО». 11.15** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРРО». 13.45** Х/ф **«СТЕРВА». 15.40** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ». 19.30** Х/ф **«ВЫСОКИЙ БЛОНДИН В ЧЕРНОМ БОТИНКЕ». 21.10** Х/ф **«РАССЕЯННЫЙ». 22.50** Х/ф **«РОБИН ГУД: МУЖЧИНЫ В ТРИКО».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45** Жизнь только начинается. **1.40, 2.45** Лютер. **4.00, 4.50, 5.50, 6.55, 7.55, 8.55, 9.55, 10.55** Шелест. **11.55, 12.50, 13.45, 14.40, 15.40, 16.35, 17.30, 18.25** Синичка. **19.20, 20.50, 21.55, 22.55** Оттепель.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 3.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.20** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.25** Х/ф **«ТОР: ЛЕГЕНДА ВИКИНГОВ». 13.00** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **14.00** Шоу «ЗВЁЗДЫ РУЛЯТ». **14.55, 17.20, 20.15, 22.10, 23.45** Прогноз погоды на неделю. **15.00** Х/ф **«ПЛОХИЕ ПАРНИ». 17.25** Х/ф **«ПЛОХИЕ ПАРНИ 2». 20.20** Х/ф **«БУНТ УШАСТЫХ». 22.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.50** Х/ф **«РАЙОН №9». 1.55** Скетч-шоу «МОСГОРСМЕХ». **4.05** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **4.55** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.20, 17.10, 2.10** Спорт-микс. **6.30** Теннис. WTA. Цинциннати. 1/4 финала. **8.35** Пляжный футбол. Евролига. Беларусь – Франция. **9.50, 12.20, 17.20** Художественная гимнастика. Challenge Cup. Минск. **11.50** Фактор силы. **14.10** Большой спорт. **14.55** Хоккей. Кубок Беларуси. Финал 4-х. 1/2 финала. **18.55** Спорт-центр. **21.10** Пляжный футбол. Евролига. Беларусь – Германия. **22.15** Теннис. WTA. Цинциннати. 1/2 финала.

### EUROSPORT

**0.35, 8.00, 12.35, 21.30** Лёгкая атлетика. Командный Чемпионат Европы. Быдгощ. **2.30, 6.30, 13.30, 19.30** Снукер. International Championship. Китай. Финал. **4.00, 9.30** Велоспорт. «Арктическая гонка Норвегии». 2-й этап. **4.30, 10.30** Велоспорт. «Тур Юты». 4-й этап. **5.30, 11.30, 15.00** Велоспорт. Binckbank tour. 5-й этап. **16.00** Велоспорт. Binckbank tour. 6-й этап. **18.00** Велоспорт. «Арктическая гонка Норвегии». 3-й этап. **19.15** WATTS. **22.00** Регби. Тестовый матч.Франция – Шотландия.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Машины с того света. **7.30, 9.45, 11.50, 14.50, 17.55, 22.30, 0.20, 3.15** Итоговые новости. **7.45, 0.35** Тест на «Драйве». **8.10, 1.00** Комплектация. **8.45, 1.30** Тайный покупатель. **9.00, 1.45** Под микроскопом. **9.55** Это Родина твоя. **10.25** Все включено. **10.45** Советы юриста. **11.25** Испытание на прочность. **12.05, 15.05, 18.10** Мото. Вторые руки. **19.35, 22.45, 3.25** АВТОбиография. **20.25, 23.35, 4.15** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **20.55, 0.05, 4.40** Школа внедорожного вождения. **21.15, 4.55** В поисках мотоприключений. **21.45, 5.25** Теория полного привода. **22.15** Авто: вторые руки. **2.15** Сити тестер. **2.45** 9 злобных водителей.

### EXPLORE

**6.00, 6.45** Переделка старья. **7.35, 8.00, 8.25, 8.50, 0.55, 1.20, 1.50** Гараж: Последний приют. **9.15, 10.00, 10.50, 11.35, 12.20, 13.10** Австралийские золотоискатели. **13.55, 14.45** Австралийские охотники на лобстеров. **15.30, 16.15** Поисковая команда в Австралии. **17.00, 17.55** Адские грузовики. **18.45, 19.10** Грузовые войны: Великобритания. **19.35, 20.25, 5.05** Большое рыболовное состязание. **21.20, 22.10** Деревенский дом. **23.00, 23.55** Рэй Донован. **2.20** Танковый биатлон. **3.20, 4.10** Чудовищный карп.

### HISTORY

**6.00, 8.40, 9.30, 3.35, 4.25** Музейные тайны. **7.00** Тайны британских замков. **7.50, 1.45, 2.40** Запретная история. **10.20, 11.20** Расцвет древних цивилизаций. **12.20** Елизавета I и ее враги. **13.15** Тридцатилетняя война – Железный век. **14.15** Истории из королевского гардероба. **15.20** Рим: первая сверхдержава. **16.10** Мифы и чудовища. **17.05** Взгляд изнутри: убийство Джона Кеннеди. **18.05, 19.00** Вулканическая одиссея. **20.00** Настоящая игра престолов. **20.50** Наполеон. **22.00** Лучшие убийцы древних времён. **22.50** Первые цивилизации. **23.50** История оружия. **0.50** Оружейники: искусство войны. **5.10, 5.35** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.05, 6.55, 7.45** От бездомной собаки до супер-пса. **8.35, 9.30** Не вините собаку. **10.25** Ветеринар на холме. **11.15** Обучите моего питомца. **11.45, 12.15, 12.40, 13.10, 13.40, 14.10, 14.40, 15.10, 15.40, 16.10** Уличный ветеринар. **16.40** Вторжение гигантских питонов. **17.30** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **18.20, 19.10** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **20.00, 20.50, 21.45, 22.40** Эпический Йеллоустоун. **23.35, 0.00, 0.30, 0.55, 1.25** Природа в кадре. **1.50, 2.40, 3.35** Суперветеринар. **4.25, 5.10** Тайная жизнь зоопарка.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.25** Чудеса инженерии. **7.15** Инстинкт выживания. **8.00, 12.05, 4.50** Суперкар со свалки. **8.50, 9.35** Золото в холодной воде. **10.25, 10.50, 5.35** Код опасности. **11.15, 11.40** Игры разума. **12.50, 13.35** Авто-SOS. **14.20, 15.05, 2.30, 3.20** Расследования авиакатастроф. **15.50** Враждебная планета. **16.40** Шандун: страна Конфуция. **17.25, 18.15** В поисках наследия. **19.00, 21.55** «Наркоман Гитлер». **19.45, 22.40** Откуда берутся диктаторы. **20.25, 21.10** Осушить океан. **23.25, 0.10** Секретные материалы древности. **1.00, 1.45** Злоключения за границей: Преступление и наказание. **4.05** Неизвестная планета земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.40** Какая дичь! **6.15, 22.55** Охота в Новом Свете. **6.40, 23.55** Профессиональная рыболовная лига 2018. **6.55, 12.00, 18.05, 0.30** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином. **7.45, 12.45, 18.50, 1.15** Рецепты старого Тифлиса. **8.00, 19.35** Пофестивалим! **8.30, 20.05** Поймать лосося. **9.00** На рыбалку с охотой. **9.30** Горная охота на охотского снежного барана. **10.00, 21.35** Стрелковый спорт. **10.10, 21.55** Охотничьи собаки. **10.45, 22.25** Кодекс охотника. **11.00, 17.30, 1.30, 5.05** Беларусь: в поисках хорошего клева. **11.30, 19.05, 1.55, 5.35** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **13.05** Фишермания. **13.35** Рыбалка 360. **14.05** Рыбалка в России. **14.30, 2.20** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **15.00, 2.50** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **15.30, 20.35, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **16.00, 21.05, 3.45** Оружие для охоты. **16.30, 4.10** Карпфишинг. **17.00, 4.35** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **23.25** Секреты «трудных» водоемов. **0.10** Советы бывалых.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 13.55, 18.20, 22.25, 2.20** Дома на деревьях (сезон 4). **6.45, 10.50, 14.40, 3.05** Квас. **7.00, 11.05, 15.00, 19.20, 23.30, 3.20** Огород от-кутюр. **7.30, 11.35, 15.25, 19.50, 0.00, 3.45** Урожай на столе. **8.00, 12.10, 16.00, 0.30, 4.15** Хозяин. **8.30, 20.50, 1.00, 4.40** Садовый доктор. **8.45, 12.35, 16.45, 21.05, 1.10, 4.50** Тихая моя родина. **9.20, 13.10, 17.15, 21.40, 1.40, 5.20** Полное лукошко. **9.35, 13.25, 17.35, 21.55, 1.55, 5.35** Фитоаптека. **16.30** Про грибы. **18.05** Постное меню. **19.05** Мультиварка. **20.25** Преданья старины глубокой. **23.10** Правила стройки.

## Беларусь 1

**6.45** Х/ф **«ЖЕНА ПО ОБМЕНУ».**

**8.20** «Клуб редакторов».

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Т/с **«СЛЕД».**

**10.40** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.35** «Наши».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Т/с **«НЕРАСКРЫТЫЙ ТАЛАНТ 3».**

**14.25** «Твое место на кухне».

**15.15** «Твой город».

**15.30** «Вокруг планеты».

**16.20** «Код нации». Хроникально-документальный телефильм.

**17.00** Х/ф **«АРТИСТКА».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** «Главный эфир».

**22.10** Х/ф **«ПРОШУ ПОВЕРИТЬ МНЕ НА СЛОВО».**

## Беларусь 2

**6.55** Т/с **«СТОМАТОЛОГ».**

**8.35, 19.55** «Телебарометр».

**8.40** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.25** «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**10.15** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.10** Х/ф **«ДЖЕК РИЧЕР 2: НИКОГДА НЕ ВОЗВРАЩАЙСЯ».**

**13.10** Х/ф **«НЕПРИСТОЙНОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ».**

**15.05, 23.40** Х/ф **«БЕДНАЯ БОГАТАЯ ДЕВОЧКА».**

**16.40** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.45** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.25** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** «Спортлото 5 из 36», КЕНО.

**22.05** «Рок за Бобров». Баста.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.10, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 14.30, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Умка», «Умка ищет друга». Мультфільмы.

**8.45** «Дзе знаходзіцца нафелет?» Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Пірог «Трухлявы пень».

**11.00** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Балада пра салдата». Мастацкі фільм [СТ].

**13.15** «Майстры і куміры». Спявак, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар Скорабагатаў.

**14.35** «Дзяўчына без адрасу». Мастацкі фільм.

**16.05** «Дзесяць фатаграфій». Валерый Сюткін.

**16.45** «Апошні бой маёра Пугачова». Мастацкі фільм.

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Алмазы для Марыі». Мастацкі фільм.

**22.20** В.Кузняцоў. «Вітаўт». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** Х/ф **«САМОГОНЩИКИ».**

**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** «Здоровье».

**10.25** «Видели видео?».

**12.10** «Трагедия Фроси Бурлаковой».

**13.10** Х/ф **«ПРИХОДИТЕ ЗАВТРА...».**

**15.00** «Точь-в-точь».

**16.20** «Точь-в-точь» Продолжение.

**18.20** «Эксклюзив» с Дмитрием Борисовым.

**20.00** «Контуры».

**21.05** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ».**

**23.00** ОНТ представляет: «Спортклуб»(16+).

**23.20** «КВН». Премьер-лига.

## СТВ

**6.05** «Легенды СССР».

**7.40, 23.15** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** Документальный проект.

**12.30, 13.40, 16.40** Т/с **«АГЕНТ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**20.35** «Засекреченные списки».

**1.35** ПРЕМЬЕРА. «Анекдот-шоу с Вадимом Галыгиным».

## Мир

**6.00, 6.25, 7.45** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.40** «Беларусь сегодня».

**7.10** «Охота на работу».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.50** «Всемирные игры разума».

**9.25, 3.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15** Х/ф **«ИГРУШКА».**

**12.10** Х/ф **«ВЫСОКИЙ БЛОНДИН В ЧЕРНОМ БОТИНКЕ».**

**14.10, 16.15** Х/ф **«ИГРА В ЧЕТЫРЕ РУКИ».**

**16.45** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**

**19.05** Х/ф **«КРАСОТКИ».**

**20.55** Х/ф **«АМЕЛИ».**

**23.30** Т/с **«НАЙТИ МУЖА ДАРЬЕ КЛИМОВОЙ».**

**4.10** Т/с **«ПОРОКИ И ИХ ПОКЛОННИКИ».**

## НТВ-Беларусь

**6.15** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.55, 22.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.25** «Готовим с Алексеем Зиминым».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.40** «Устами младенца».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.05** «Чудо техники».

**11.55** «Дачный ответ».

**13.00** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**19.25** Т/с **«ШЕФ».**

**23.10** Премьера. «Дорога длиною в жизнь».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«КУДА УХОДЯТ ДОЖДИ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**13.15, 21.45** Т/с **«ИДЕАЛЬНАЯ ЖЕРТВА».**

**23.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.15** Люди в чёрном. **8.25** Социальная сеть. **11.00** Бойфренд из будущего. **13.15** Пианист. **16.00** Тристан и Изольда. **20.10** Грязные танцы 2: Гаванские ночи. **21.45** Осторожно, двери закрываются! **23.35** Светская жизнь. **1.25** Любовь и страсть. Далида. **3.50** Легенда Зорро.

### TV1000 ACTION

**7.10** Убить Билла 2. **10.10** Ямакаси: Свобода в движении. **11.50** Овердрайв. **13.35** Смертельная гонка. **15.30** Бессонная ночь. **17.25** Реальные парни. **19.10** Эквилибриум. **21.10** Удача Логана. **23.25** Кровный отец. **1.05** Падение Олимпа. **3.10** Убийца внутри меня. **5.10** Дэнни Цепной пёс.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Тэли и Толи. **8.05** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **10.00** Каникулы президента. **11.50** Полёты во сне и наяву. **13.30** Спасти Ленинград. **15.20** Килиманджара. **16.45** Без границ. **18.30** Одноклассники.ru: НаCLICKай удачу. **20.20** Обитаемый остров. **22.35, 5.30** Чёрная вода. **0.40** Подлец. **2.30** Ярослав. Тысячу лет назад. **4.15** Тесты для настоящих мужчин.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.15, 11.15, 12.15** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 13.15** Х/ф **«КОЛДУНЬЯ». 15.15** Х/ф **«УИДЖИ: ДОСКА ДЬЯВОЛА». 17.00** Х/ф **«УИДЖИ: ПРОКЛЯТИЕ ДОСКИ ДЬЯВОЛА». 19.00** Х/ф **«ТЕЛЕКИНЕЗ». 21.00** Х/ф **«ОМЕН». 23.15** Х/ф **«ТЕЛО ДЖЕННИФЕР». 1.15** Х/ф **«ВИЗИТ». 3.00** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ МИМЗИ ВСЕЛЕННОЙ». 4.30, 5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗА ВСЕ ТЕБЯ БЛАГОДАРЮ». 12.00, 13.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 14.00** Предлагаемые обстоятельства. Белые лилии. 1 с. **15.00** Предлагаемые обстоятельства. Белые лилии. 2 с. **20.00, 21.00** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 22.00, 23.00** Т/с **«ПРИИСК 2». 2.00, 3.00** Т/с **«ПЕТЕРБУРГСКИЕ ТАЙНЫ». 4.00, 5.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 6.00, 7.00** Т/с **«РАЗВОД И ДЕВИЧЬЯ ФАМИЛИЯ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** Х/ф **«НЕВЕЗУЧИЕ». 2.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ ПО-ФРАНЦУЗСКИ». 4.55** Х/ф **«БАБЛО». 6.45** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!». 8.40** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ФАКИРА». 10.25** Х/ф **«ВДРЕБЕЗГИ». 12.15** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО». 13.50** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 2». 15.25** Х/ф **«ОЧЕНЬ СТРАШНОЕ КИНО 3». 17.00** Х/ф **«ДЮПЛЕКС». 18.40** Х/ф **«SUPERПЕРЦЫ». 20.50** Х/ф **«ИЗ 13 В 30». 22.40** Х/ф **«УРА! КАНИКУЛЫ!».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00, 2.05, 2.55, 4.00, 4.55, 5.45, 6.35** Оттепель. **7.50, 8.50, 9.55, 10.50, 11.55, 12.55, 13.55, 14.55** Шелест. **15.55, 17.00, 18.00, 19.05, 20.15, 21.20, 22.20, 23.25** Временно недоступен.

### ВТВ

**6.00, 6.55, 8.15, 9.15, 10.40, 11.40, 12.15, 12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.35, 20.15, 22.00, 23.40** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 2.55** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.20** Т/с **«ЕРАЛАШ». 9.50** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **10.10** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.45** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.45** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ 2». **12.20, 1.35** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00, 2.05** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00** Т/с **«ПСИХОЛОГИНИ». 15.00** Фэнтези «УЖАСТИКИ». **17.00** Х/ф **«ОБЛАЧНО, ВОЗМОЖНЫ ОСАДКИ В ВИДЕ ФРИКАДЕЛЕК». 18.40** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **20.20** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР». 22.05** «КВН. ПА-НАШАМУ». **23.05** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **23.45** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 3.45** Скетч-шоу «ОДНА ЗА ВСЕХ». **4.35** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.45, 12.40, 15.05, 1.00** Спорт-микс. **6.55, 12.50, 15.15** Художественная гимнастика. Challenge Cup. Минск. **8.50** Футбол. Чемпионат Англии. Манчестер Сити- Тоттенхэм. **10.45** Хоккей. Кубок Беларуси. Финал 4-х. 1/2 финала. **16.30** Хоккей. Кубок Беларуси. Финал 4-х. Финал. Превью. **16.50** Хоккей. Кубок Беларуси. Финал 4-х. Финал. **19.30** Футбол. Чемпионат Англии. Челси – Лестер. 2-й тайм. **20.30** Пит-стоп. **21.00** Теннис. WTA. Цинциннати. Финал. **23.00** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **23.45** Спорт-центр. **23.55** Пляжный футбол. Евролига. Италия – Беларусь.

### EUROSPORT

**0.00** Ралли. ERC. Чехия. Первый день. **0.35, 8.00** Снукер. International Championship. Китай. Финал. **2.30, 6.30** Лёгкая атлетика. Командный Чемпионат Европы. Быдгощ. **4.00, 12.00** Велоспорт. «Арктическая гонка Норвегии». 3-й этап. **4.30, 9.30, 21.40** Велоспорт. «Тур Юты». 5-й этап. **5.30, 10.30** Велоспорт. Binckbank tour. 6-й этап. **12.30, 20.00** Олимпийские игры. «Живые легенды». **13.00** Триатлон. Олимпийская квалификация. Мужчины. **13.30** Триатлон. Олимпийская квалификация. Смешанная эстафета. **14.00, 19.15** Велоспорт. Мировой тур. Женщины. Варгарда. **16.00** Велоспорт. Binckbank tour. 7-й этап. **18.00** Велоспорт. «Арктическая гонка Норвегии». 4-й этап. **20.30** Олимпийские игры. Camps to Champs. **21.00** Олимпийские игры. «Сила личности». **22.30** Велоспорт. «Тур Юты». 6-й этап.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Трасса А2. **7.30, 10.15, 13.25, 16.40, 19.25, 0.05, 1.25, 3.00** Итоговые новости. **7.45, 9.05, 0.20, 1.40** Под микроскопом. **8.15** Сити тестер. **8.50, 2.50** Вторичка. **9.35, 2.10** Вечер с Пикуленко. **10.30** Тест на «Драйве». **11.00, 14.50, 16.55** Комплектация. **11.30** Тайный покупатель. **11.45, 1.10** Все включено. **12.00, 13.35** Эконом-тест. **19.40, 22.30, 3.15** АВТОбиография. **20.30, 23.20, 4.05** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **20.55, 23.50, 4.30** Школа внедорожного вождения. **21.15, 4.45** В поисках мотоприключений. **21.45** Кузовной ремонт. **22.15, 5.45** Авто: вторые руки. **0.45** Это Родина твоя. **5.15** Теория полного привода.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.30** Чудовищный карп. **9.20, 9.45, 10.10** Путешествие по паркам. **10.40, 11.35, 12.25, 13.20, 14.15, 15.05** Выживание в лесу. **16.00, 16.45** Деревенский дом. **17.30, 17.55, 18.20** Гараж: Последний приют. **18.45, 19.35** Надсмотрщик. **20.20, 21.10** Переделка старья. **22.00, 22.50, 23.40, 0.30, 1.20** Австралийские золотоискатели. **2.10, 3.00** Поисковая команда в Австралии. **3.45, 4.30, 5.15** Лесные люди.

### HISTORY

**6.00, 7.50, 2.05, 3.00** Запретная история. **7.00, 10.25** Тайны британских замков. **8.45, 9.35, 3.55, 4.45** Музейные тайны. **11.15, 12.10** Вулканическая одиссея. **13.10, 14.10, 15.10, 16.10, 17.15** Первые люди. **18.15, 19.15** Тайны египетских пирамид. **20.10** Смертоносный интеллект. **21.05** Падение империи. **22.00** Великие воительницы викингов. **23.00, 0.00** Невидимые города Италии. **1.00** Владыки Тихоокеанского побережья. **5.35** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.00, 6.55, 7.50** Удивительное семейство псовых. **8.45, 9.35** Секретная жизнь собак. **10.25, 13.55, 20.00** Волшебная страна Оз. **11.25, 12.15, 13.05** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **14.50** Собака с IQ 102. **15.40, 16.40** Кошки и собаки: кто лучше? **17.45, 18.40** Питомцы: дикие в душе. **19.35** Животные инстинкты с Крисом Хамфри. **21.00, 21.55, 22.50** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **23.45, 0.40** Эпический Йеллоустоун. **1.40, 2.30, 3.25** Суперветеринар. **4.15, 5.05** Тайная жизнь зоопарка.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.25** Чудеса инженерии. **7.15, 1.05, 1.50** Инстинкт выживания. **8.05, 12.00** Суперкар со свалки. **8.50** Золото в холодной воде. **9.40** Короли рыбалки. **10.25, 10.50, 5.35** Код опасности. **11.15, 11.40, 5.10** Игры разума. **12.50, 13.35** Авто-SOS. **14.20, 15.10** Дневники круизного лайнера. **15.55** Внутри невероятной механики. **16.45** Нарко Блинг: поймать Чапо Гусмана. **17.25** Фидель Кастро: Потерянные Плёнки. **18.10, 3.30** Генуя: Хронология катастрофы. **19.00, 22.05, 2.40** Осушить океан. **19.45** Шандун: страна Конфуция. **20.30, 21.15** В поисках наследия. **22.50** Служба безопасности аэропорта: Перу. **4.20** Неизвестная планета земля.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.40** Фишермания. **6.25, 23.10** Рыбалка 360. **6.55, 11.55, 18.05, 0.25** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином. **7.45, 12.45, 18.50, 1.15** Рецепты старого Тифлиса. **8.00, 19.35** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **8.30** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **9.00, 15.40, 20.35, 3.15** Рыбалка сегодня XL. **9.25, 16.05, 21.05, 3.45** Оружие для охоты. **9.55, 21.35** Карпфишинг. **10.25, 22.05** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **10.55, 17.35, 1.30, 5.05** Беларусь: в поисках хорошего клева. **11.25, 19.05, 1.55, 5.35** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **13.00** Какая дичь! **13.15** Охота в Новом Свете. **13.45** Секреты «трудных» водоемов. **14.20** Профессиональная рыболовная лига 2018. **14.35, 2.25** Пофестивалим! **15.05** На рыбалку с охотой. **16.35, 4.10** Стрелковый спорт. **16.50, 4.25** Охотничьи собаки. **17.20, 4.50** Кодекс охотника. **20.05** Практическая школа нахлыста. **23.40** Рыбалка в России. **0.10** Дед Мазай и зайцы. **2.50** Поймать лосося.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 13.55, 22.25, 2.20** Дома на деревьях (сезон 4). **6.45, 10.55, 23.15** Квас. **7.00, 11.10, 15.00, 19.20, 23.30, 3.15** Огород от-кутюр. **7.30, 11.35, 15.30, 19.50, 23.55, 3.45** Урожай на столе. **8.00, 12.10, 0.30** Хозяин. **8.30** Правила стройки. **8.50, 12.40, 16.45, 21.05, 1.10, 4.50** Тихая моя родина. **9.20, 13.10, 17.15, 21.40, 1.40, 5.20** Полное лукошко. **9.35, 13.25, 17.35, 21.55, 1.55, 5.35** Фитоаптека. **14.40, 19.05, 3.05** Мультиварка. **16.00, 20.25, 4.10** Преданья старины глубокой. **16.30, 20.50, 1.00, 4.40** Садовый доктор. **18.00** Постное меню. **18.15** Деревянных дел мастер.

# Ляплёнка і драўляны будынак лебедзеўскага роду Посахаў

МАЛАДЗЕЧНА

*Заканчэнне. Пачатак у №№30,31.*

Андрэй Посах нарадзіўся ў старым доме, які стаў каркасам для названай ляплёнкі.

Злева ад ляплёнкі захаваўся драўляны дом, які быў узведзены яшчэ ў канцы 19 стагоддзя. У пачатку 20 стагоддзя гэты будынак дзяліўся на тры часткі. Ад вуліцы – нежылая частка, якая ў часы царскай Расіі, а пазней і Польшчы выконвала ролю святліцы (на сучаснай мове – клуб). Сярэдняя частка – кухня. Трэцяя тыльная частка – жылая.

### Хацелі павесіць шыльду

Узгаданы дом Посахаў быў прывабнага выгляду будынак, адзін з лепшых і прыгажэйшых у мястэчку. З вуліцы стаяла дашчаная брама, пакрытая стрэшкай. У дзвярах брамы быў спецыяльны замок з ручкай.

Лебедзеўцы расказваюць, што Янка Купала, калі гасцяваў у бацькоў Андрэя Фёдаравіча, часта адпачываў у іх садзе. Як правіла, гэта было летам. У яго руках заўсёды можна было ўбачыць кнігу альбо сшытак, у які штосьці запісваў.

**Бывала і такое, што Янка Купала і Андрэй Фёдаравіч, знаходзячыся ў садзе, пілі гарбату з самавара і нешта горача абмяркоўвалі.**

Харчаваўся паэт на кухні, адпачываў у святліцы. Калі народны паэт заставаўся на начлег, то начаваў у драўляным доме, які быў узведзены яшчэ ў канцы 19 стагоддзя і які захаваўся да сёння. Гэту версію пацвярджаюць успаміны пляменніка Андрэя Фёдаравіча – Уладзіміра Максімавіча.

З яго слоў, у 1970-я гады раённыя ўлады хацелі прымацаваць да ляплёнкі мемарыяльную дошку, прысвечаную Янку Купалу. Тады Уладзімір Максімавіч заявіў прадстаўнікам улады, што старога дома, у якім жылі бацькі Андрэя Посаха, няма. Яго разабралі, а некаторыя часткі былога будынка выкарысталі пры будаўніцтве ляплёнкі. На яго думку, класік беларускай літаратуры спыняўся менавіта ў цяперашнім старым драўляным доме.

### Праз будынак праходзілі войны

Гісторыя гэтага будынка не толькі даўняя, але і цікавая. У час Першай сусветнай вайны па прычыне набліжэння Заходняга фронту восенню 1915 года ў доме быў штаб аднаго з падраздзяленняў рускай арміі. Пасля свянцянскага прарыву на адну ноч гэты будынак аблюбавалі нямецкія штабісты. У выніку наступлення расійскіх казакоў яны вымушаны былі пакінуць Лебедзева.

Пазней, калі пачалася польска-савецкая вайна (1919–1920), тут зноў размясціўся штаб ваенных, толькі на гэты раз – польскіх. У 1920–1930-я гады ў названым будынку знаходзілася пачатковая школа.

**Калі дзеці не вучыліся, у будынку мясцовыя ўлады праводзілі культурныя і адукацыйныя мерапрыемствы. У прыватнасці, вучылі ваеннай справе і страявым песням лебедзеўскіх «стральцоў».**

У верасні 1939 года прыйшла Чырвоная Армія. У сувязі з гэтым у маліноўшчынскім маёнтку Свентажэцкіх размясцілі воінскае падраздзяленне. У будынку былога фальварка месціліся радавыя байцы. Іх камандзіры жылі на кватэрах у Лебедзеве, у тым ліку і ў ляплёнцы Посахаў. У час нямецкай акупацыі школьнікі пачатковых класаў таксама вучыліся ў названай ляплёнцы.



На здымку Андрэй Фёдаравіч Посах (1884–1945), злева.

### Парыжскія дзівосы

Многія ведаюць эпізод з жыцця Андрэя Посаха, які, будучы на востраве Капры ў Італіі, пазнаёміў Максіма Горкага з творчасцю Янкі Купалы.

Сучасныя нашчадкі роду Посахаў паведамілі яшчэ некалькі цікавых фактаў з жыцця Андрэя Фёдаравіча. Вяртаючыся дадому з Італіі, ён пабываў у Францыі і яе сталіцы. Дзяцей у Посаха не было. Аднак у яго з'явілася магчымасць праявіць клопат у дачыненні да пляменніцы Насты – дачкі Пятра. Ён прывёз дзяўчынцы дарагую механічную цацку «Кураня, якое дзяўбе зярняткі». Цацка вельмі ўразіла тых, хто ўпершыню ўбачыў яе.

**Наведванне Андрэем Посахам тагачаснага Парыжа пакінула ў яго памяці непаўторныя ўражанні. Расказваючы сваім родным аб гэтым падарожжы, ён любіў паўтараць: «Як заедзеш у Парыж, то ад прыгажосці сам засвецішся».**

### Аднавяскоўцы ў вайну дасылалі ежу

У час Першай сусветнай вайны Андрэй Фёдаравіч быў на фронце. Ваяваў у Прусіі. Вяртаючыся дадому, прывёз сястры Марыі нажную швейную машынку «Зінгер». Падарунак вельмі прыдаўся сястры. Марыя, маючы інваліднасць, атрымала занятак. Швейная машынка служыла ёй да канца жыцця.

**Андрэй і яго жонка, па прафесіі медык, былі чулымі людзьмі і пры магчымасці клапаціліся аб радні.**

Падчас Вялікай Айчыннай вайны Андрэй Фёдаравіч, будучы немаладым і хворым, жыў у Мінску. Яго сям'я, як і іншыя жыхары сталіцы, галадала. У той складаны перыяд нашай гісторыі шматлікая лебедзеўская радня, якая сама жыла небагата, у складчыну збірала прадукты харчавання і адпраўляла іх Андрэю Фёдаравічу і яго жонцы.

Знаёмства з гісторыяй ляплёнкі і драўлянага будынка, якія належаць лебедзеўскаму роду Посахаў, дазволіла пашырыць веды аб мінулым Лебедзева, а таксама абнавіць некаторыя старонкі жыцця Янкі Купалы і яго сябра Андрэя Фёдаравіча Посаха, звязаныя з мястэчкам.

**Антон АПАНАСЕВІЧ,**
**Лебедзева.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

---

● КАЛЯНДАР

9 ЖНІЎНЯ

**1910.** Нарадзілася **Ларыса Геніюш**, беларуская паэтэса, празаік, грамадскі дзеяч. Памерла ў 1983 годзе. Пахаваная ў Зэльве.

10 ЖНІЎНЯ

**1919.** У Мінску створаны Часовы беларускі нацыянальны камітэт (ЧБНК) – беларуская грамадска-палітычная арганізацыя, каардынацыйны орган беларускага нацыянальнага руху ў час польска-савецкай вайны 1919–1920 гадоў на тэрыторыі падкантрольнай польскім вайсковым фарміраванням.

11 ЖНІЎНЯ

**1937.** Кіраўнік НКВД **Мікалай Яжоў** падпісаў загад аб пачатку так званай польскай аперацыі. У час яе правядзення рэпрэсіраваны 139 тысяч 835 асоб. З іх расстраляна больш за 111 тысяч. Пад рэпрэсіі трапілі пераважна жыхары БССР і УССР, а таксама жыхары іншых раёнаў СССР, ураджэнцы Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, якія былі запісаныя як палякі.

12 ЖНІЎНЯ

**1851.** Амерыканскі вынаходнік і прамысловец **Ісак Зінгер** атрымаў патэнт на вынаходніцтва швейнай машыны. Ён унёс істотны ўклад ва ўдасканаленне канструкцыі швейнай машыны і заснаваў кампанію «Зінгер».

13 ЖНІЎНЯ

**1950.** Нарадзіўся **Пётр Краўчанка** – беларускі палітык, дыпламат і гісторык. Кандыдат гістарычных навук (1976). Жыў у Маладзечне, дзіцячыя гады правёў у сваёй бабулі ў вёсцы Ліцвінкі ля Куранца.



14 ЖНІЎНЯ

**1385.** У замку Крэва заключаная Крэўская унія паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каралеўствам Польскім.

15 ЖНІЎНЯ

**1769.** Нарадзіўся **Напалеон Банапарт**, французскі імператар.

**1923.** У Вішневе на Валожыншчыне нарадзіўся **Шымон Перэс**, ізраільскі палітык і лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**



Фота забяспечаныя Вольгай ЮРКЕВІЧ.







# Маладзечанцы аб'ядналі на вяселлі Беларусь і Літву

**На выхадных Вольга Юркевіч і Зміцер Капцюх з Маладзечна пабраліся шлюбам. Пара згуляла вяселле ў беларускім стылі, на якое маладыя запрасілі сяброў з Польшчы, Літвы і Украіны.**

### Абодва з Маладзечна, а пазнаёміліся ў Польшчы

Гісторыя знаёмства ў Вольгі і Зміцера пачынаецца ў 2012 годзе. Тады ў Варшаве праходзіў навучальны семінар. Вольга паехала з Беларусі як журналіст, а Зміцер з Вільні – як палітолаг.

– У мяне з'явілася новая праца і трэба было мяняць лад жыцця. Вырашыў апошні раз з'ездзіць, адпачыць. І той раз аказаўся лёсавызначальным, – кажа Зміцер.

У першай размове Вольга і Зміцер высветлілі, што яны абодва з Маладзечна і скончылі адну школу з розніцай у два гады.

– Так атрымалася, што ў нас быў і агульны знаёмы, які стаў нашым сведкам, – распавядае Вольга.

Адным з запрошаных гасцей быў беларускі грамадска-палітычны дзеяч, палітолаг, перакладчык і выкладчык Зміцера **Алесь Лагвінец**. Ён быў адным з арганізатараў семінара, на якім і пазнаёміліся маладыя.

Пасля знаёмства ў Польшчы Зміцер вярнуўся жыць у Літву, а Вольга – у Беларусь. Каля чатырох гадоў закаханыя ездзілі адзін да аднаго. Ён праводзіў выхадныя ў Беларусі, а яна жыла ў Вільні падчас сваіх выхадных. Такім чынам, прызнаецца Зміцер, ён запаліў яе любоў да Літвы, Сярэднявечча і Вялікага Княства Літоўскага.

### Не хацелі рабіць свята ў стылі фіранак

Маладыя расказваюць, што было пытанне пра тое, ці трэба рабіць вяселле. Маўляў, цяпер многія проста едуць адпачываць. Зміцер дзеліцца, што такі варыянт прывабіў, але святкаваць хацелі ўсё роўна.

**– Мы не хацелі рабіць свята ў стылі фіранак. Такое свята не адрозніваецца ад звычайнай п'янкі з музыкай.**

Маладыя жылі на дзве краіны. Тэрыторыі Беларусі і Літвы былі раней у складзе Вялікага Княства Літоўскага. Таму выбар шляхецка-рыцарскага варыянту вяселля быў відавочны. Вольга і Зміцер кажуць, што не маглі ўявіць сабе свята, якое б праходзіла па-іншаму.

– Нас аб'ядноўвае гісторыя Беларусі і жыццё ў Вільні. Мы не прэтэндуем на поўную гістарычнасць. Гэта канцэпт таго, якое вяселле магло быць у той час, – тлумачыць Зміцер.

Выбар сядзібы для святкавання таксама быў невыпадковы. Вольга і Зміцер у лютым ехалі з Маладзечна ў Вільню. Вырашылі паехаць па іншай дарозе, каб паглядзець беларускія краявіды, і наткнуліся на сядзібу. Усё, што потым шукалі, не магло параўнацца з тым, што ўбачылі ў лютым. Спадабаўся і знешні выгляд, і інтэр'ер, – усё падыходзіла да шляхецка-рыцарскага стылю вяселля.

### Атрымалася шматнацыянальнае свята

На вяселле да маладых завіталі знаёмыя з Літвы, Польшчы, Украіны. Вольга лічыла, што на такім шматнацыянальным свяце гасцям будзе цяжка знайсці агульную мову. Вядучы-маршалак вёў вяселле на беларускай мове і пераходзіў на рускую, каб зразумелі ўсе. Святар Віталь спецыяльна праводзіў абрад на беларускай мове, за што маладыя яму ўдзячныя.

Гасцей папрасілі быць у вышыванках. Сябры падтрымалі маладых у гэтай ідэі, да апошняга шукалі ўборы і нашывалі стужкі з арнаментам. Госці з Вільні спецыяльна куплялі іх тут, а іншыя нават пыталіся, што такое вышыванка і дзе дастаць. Касцюмы для маладых шылі на заказ у двух розных майстроў. Яны таксама былі ў беларускім нацыянальным стылі.

**– Памятаю, што мы ездзілі да швачкі перад вяселлем. Забіралі кашулю для аднаго сябра, каб ён не перажываў, што будзе без вышыванкі, – успамінае Вольга.**

Маладыя распавялі, што вяселле ўсім спадабалася, а такі стыль стаў незвычайным для ўсіх.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Афіша спектакля.



Фота забяспечанае Мінскім абласным драмтэатрам.

Злева направа: в.а. загадчыка пастановачнай часткі Павел Грывіцкі, актрыса Яўгенія Стэцэнка, мастак-пастаноўшчык Андрэй Жыгур, актрысы Кацярына Шчэрбач, Анастасія Макарэвіч, рэжысёр-пастаноўшчык спектакля Данііл Абухоў, актрыса Наталля Скарынка.



Фота забяспечанае Наталляй СКАРЫНКАЙ.

Актрыса Наталля Скарынка ў вобразе.

# «А раптам каханне?»
# Рыхтуюць прэм'еру спектакля пра прастытутак

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзявочыя бойкі, жыццё на чамаданах, прага лёгкіх грошай. На сцэне тэатра ў Маладзечне распавялі гісторыі беларускіх дзяўчат з правінцыі, што вырашылі зарабляць целам.**

Здача разам з перадпрэм'ерным паказам спектакля «Дзеўкі» адбылася ў Мінскім абласным драматычным тэатры 30 ліпеня.

Спектакль паставілі па аднайменным сцэнары **Дзмітрыя Багаслаўскага** «Дзеўкі». Рэжысёрам выступіў **Данііл Абухоў**. Мастак-пастаноўшчык **Андрэй Жыгур**.

Студэнтак іграюць актрысы **Кацярына Шчарбач**, **Кацярына Панедзька**, **Наталля Скарынка**, **Анастасія Макарэвіч**. Іх старэйшую калегу іграе **Яўгенія Стэцэнка**.

Спектакль ідзе на беларускай мове. У канцы актрысы агучваюць разважанні жанчын па-руску.

### Сумкі і чамаданы

Пастаноўка дзёрзкая і правакацыйная, таму на падрыхтоўку не выдаткоўвалі вялікі бюджэт. Каб скласці асноўную дэкарацыю ў выглядзе вялікай вешалкі з жаночымі сумкамі, запрасілі прынесці гэты аксесуар жыхароў горада. За некалькі дзён сабралі патрэбную колькасць – праект стаў народным.

Ад першых хвілін спектакля актрысы задаюць разняволены настрой сакавітай беларускай мовай са слэнгам і матамі. Страсці кіпяць усю пастаноўку. Каханне, дэтэктыў, інтрыгі, драма – юныя студэнткі сутыкаюцца з рознымі выпрабаваннямі.

У кожнай з гераінь свая прычына, чаму абрала такую прафесію. Але праблемы, з якімі сутыкаюцца, вельмі падобныя.

Галоўны рэквізіт у пастаноўцы – чамаданы. Яны адлюстроўваюць стан душы персанажаў, іх жаданне і гатоўнасць у любы момант змяніць жыццё. Толькі б знайшоўся той, хто выцягнуў бы за руку.

Актрысы агучваюць адказы на стэрэатыпныя пытанні, якія могуць узнікнуць да прадстаўнікоў такога роду занятку. Пра што думаюць прастытуткі і аб чым мараць.

Як і ў многіх творах мастацтва, расповед пра лёсы прастытутак – толькі адзін са слаёў пастаноўкі. Тэма правінцыі і вялікага горада, а таксама жаданне «зваліць адсюль» знаёмая многім беларусам. Пра гэта разважаюць гераіні, абмяркоўваючы, якое жыццё для іх было б лепшым.

### Дырэктар тэатра спачатку быў супраць

На «Дзеўкі» тэатр сабраў аншлаг, прытым што гэта быў перадпрэм'ерны паказ. Гледачы на выхадзе абмяркоўвалі ўбачанае: хто быў у захапленні, а хто ў шоку ад нечаканага градуса напалу жарсцяў і правакацыйнасці.

– Спачатку я быў супраць пастаноўкі, – дзеліцца дырэктар тэатра **Юры Крывенькі**. – Думаў, як жа буду яго прадаваць? У нас публіка, якая чакае пэўных карцін, і гэта дакладна ў звыклыя рамкі не ўкладваецца. А пасля зладзілі адкрытую чытку з навучэнцамі маладзечанскіх каледжаў. Іх рэакцыя на твор усё расставіла па месцах. Яны ахвотна разважалі над творам, былі адкрытыя і шчырыя, а дабіцца такога ад моладзі дарагога варта. Вырашылі паспрабаваць. Грошай на эксперыменты не мелі, таму з рэквізітам дапамаглі гледачы. У выніку атрымалася. Я задаволены спектаклем. Асабіста для мяне гэта штуршок. Важна і тое, што і аўтар твора, і рэжысёр – нашы маладыя беларускія творцы, а спектакль беларускамоўны. Данііл скончыў ГІТІС, а вось у Беларусі менавіта «Дзеўкі» сталі яго дэбютам. Думаю, гледачы атрымаюць ад пастаноўкі і задавальненне, і нагоду паразважаць.

Афіцыйная прэм'ера будзе ў верасні. Сачыце за навінамі, каб не прапусціць дзёрзкую прэм'еру.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# «Удзячныя вочы – бясцэнныя». Як каб дапамагаць іншым




Фота Таццяны САФОНАВАЙ.

Удзельнікі ініцыятывы «Бумеранг дабра», злева направа: Жанна Сысіна, Валерыя Бажко, Вольга Куратнік, Кацярына Шафаловіч, Кацярына Краўчонак, Кацярына Супічэнка, Аляксандра Аскірка.

МАЛАДЗЕЧНА

**У ліпені маладзечанцы наладзілі свята, каб сабраць грошы на лячэнне хворага хлопчыка Цімафея Раця, і сабралі 1730 рублёў. Гэта адна з дабрачынных спраў, якія арганізавала маладое аб'яднанне «Бумеранг дабра».**

### Усё пачалося з мам

«Бумеранг дабра» пачынаўся з суполкі «Горад мам» у сацыяльнай сетцы «Укантакце» каля трох год таму. Адміністратар **Валерыя Бажко** падумала, што мамам у дэкрэтным адпачынку варта аб'ядноўвацца, каб вырашаць розныя пытанні разам. 30 ліпеня Валерыя нарадзіла другое дзіця, дачку Еву. Таму пра арганізацыю для чытачоў «РГ» расказвалі **Вольга Куратнік** і **Кацярына Шафаловіч**.

У красавіку 2017 года ў групу скінулі пост, што патрэбная дапамога нованароджанаму, ад якога адмовіліся бацькі. Былі неабходныя падгузнікі, сурвэткі, адзенне. За некалькі дзён сабралі столькі, што хапіла на некалькі дзяцей.

Пасля вырашылі, што хацелі б дапамагаць і іншым, але каму? У Маладзечне дзіцячага дома няма. Радашкавіцкі апякуе Міністэрства ўнутраных спраў, там няма вострай неабходнасці ў падтрымцы. Абзванілі іншыя месцы. Дапамога была патрэбная SOS-дзіцячай вёсцы ў Бараўлянах. Збіралі рэчы, з'ездзілі ў Бараўляны.

Пасля актывісты вырашылі, што проста збіраць грошы або неабходныя рэчы мала. Трэба ладзіць святы.

– Проста прасіць «людзі, дайце» – мала, – тлумачыць Кацярына. – Калі ты просіш, трэба даць нешта ўзамен. Ад свята будзе больш водгукаў, многіх прыцягваем у арганізацыю, больш даведваюцца пра збор, і збяраш больш. Падумалі, святаў многа не бывае, няхай яны будуць яшчэ з карысцю.

Гэта ідэя, як і многія іншыя, нарадзілася за сталом у кавярні «Тук». Менавіта тут актывісты абмяркоўваюць планы і абменьваюцца думкамі, а гаспадары кавярні пастаянна падтрымліваюць дабрачынныя праекты.

Першае свята ад ужо зарэгістраванай арганізацыі было 14 красавіка. Запрошаныя выступоўцы дзяліліся з гасцямі бацькоўскім досведам. На імпрэзе атрымалася сабраць канцылярыю для выхаванцаў дзіцячых дамоў у Насілаве і Чысці.

21 ліпеня «Бумеранг дабра» зладзіў буйное свята ў гонар Цімафея Раця. Атрымалася сабраць яму на лячэнне 1730 рублёў. Арганізатары рыхтаваліся каля трох тыдняў.

### Чаму спатрэбілася рэгістрацыя

Восенню мінулага года актывісты вырашылі, што суполкі ў сацыяльнай сетцы недастаткова, варта стварыць афіцыйную арганізацыю. Справа патрабавала ўлічыць шмат юрыдычных момантаў. Пашчасціла, што да кампаніі далучыўся кампетэнтны юрыст **Ігар Лабецкі**. Шмат часу і грошай сышло на працу з паперамі, узгадненнямі. 9 красавіка на руках усё ж было пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сацыяльнага грамадскага аб'яднання бацькоў «Бумеранг дабра».

Пытанне рэгістрацыі палічылі важным найперш, каб мець больш даверу ад людзей, якія гатовыя дапамагаць. Актывісты атрымалі юрыдычны адрас і банкаўскі рахунак. Дзякуючы гэтаму пералічваць грошы могуць любыя арганізацыі і прадпрыемствы.

Галоўная парада для тых, хто хоча пайсці па слядах актывістаў, – знайсці кампетэнтнага юрыста і бухгалтара, каб усе дакументы былі ў парадку. Няшмат спецыялістаў, якія працавалі б з некамерцыйнымі арганізацыямі. Могуць узнікнуць праблемы толькі таму, што ў службовых асоб няма досведу працы з імі. За перавод грошай на збор Цімафея Раця ў банку запатрабавалі камісію ў 2,5%. Плаціць яе – значыць, адабраць з лячэння хлопчыка ці пакрыць са сваёй кішэні. Добра, што пасля знайшлі абгрунтаванне, каб камісію аплачваць не спатрэбілася.

Яшчэ адзін момант, да якога павінны быць гатовыя пачаткоўцы – час адсеяць тых, хто не гатовы займацца справай напоўніцу. Да гэтага варта ставіцца з разуменнем.

Каб даведвацца пра тых, каму патрэбная дапамога, актывісты сустракаліся з прадстаўнікамі ўлады. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Людміла Кананові**ч падтрымала ідэю актывістаў і ўступіла ў грамадскае аб'яднанне. Намеснік старшыні раённай камісіі па справах непаўнагадовых **Вольга Клепакова** сказала, што будзе прапаноўваць дапамагчы дзецям, з якімі працуе.

**Атрымаць кансультацыю, параду і падтрымку можна ў Асамблеі НДА – аб'яднанні няўрадавых арганізацый і грамадзянскіх ініцыятыў. Сайт асамблеі belngo.info, электронная пошта ngo@belngo.info.**

### Дапамагаць можна па-рознаму

Дабрачынная арганізацыя дапамагае не толькі адзеннем, абуткам або грашыма. Будучыя падапечныя могуць трапіць у розныя сітуацыі і мець вельмі розныя патрэбы.

Адна жанчына з двума дзецьмі засталася ў сітуацыі, калі не было грошай на ежу. Так склалася таму, што муж аказаўся нягоднікам. Каб не даводзілася плаціць штраф за пратэрмінаваную аплату па крэдыце, яна пагасіла суму. З-за гэтага ў сям'і грошай зусім не засталося, і было незразумела, як пражыць няпросты перыяд, пакуль будуць чарговыя выплаты.

Пра сітуацыю расказалі сяброўкі жанчыны, сама яна саромелася дзяліцца праблемай. Сяброўкі дапамаглі, чым маглі, актывісты «Бумеранга дабра» купілі прадукты, а жанчына выгнала ненадзейнага мужа.

– Людзям сорамна расказваць пра сваю бяду, – кажа Шафаловіч. – Хаця мы і працуем ананімна – называем, каму збіраем, толькі з дазволу гэтых

# актывісты аб’ядналіся,














Фота забяспечаныя «Бумерангам дабра».

**Фотаздымкі з мерапрыемстваў, якія ладзіла аб’яднанне «Бумеранг дабра».**

людзей – усё роўна ім няёмка.

У іншай маладзечанскай сям’і чацвёра дзяцей засталіся пад апекай бабулі. Інтэлігентная жанчына ніколі не асмелілася б папрасіць дапамогі. Але праз знаёмых актывісты даведаліся пра мару жанчыны – пафатаграфаваць дзяцей, каб засталася памяць пра іх дзяцінства.

«Бумеранг дабра» арганізаваў фотасесію з жывёламі. Прафесійны фатограф зрабіла шмат мілых кадраў, дзеці выдатна бавілі час, а бабуля атрымала камплект раздрукаваных фота ў драўлянай шкатулцы. У дадатак дзеці атрымалі сертыфікаты ад забаўляльных устаноў горада.

Іншая жанчына засталася адна з двума дзецьмі. Сям’я жыве ў раёне. Адно з дзяцей мае інваліднасць, яму трэба прайсці курс заняткаў у паліклініцы. Перавезці яго няпроста, дзіця на зондавым кармленні. Актывісты дапамаглі знайсці кватэру на тыдзень, каб можна было прайсці курс.

Пасля пажару бацька з дзецьмі застаўся без патрэбнай мэблі. Усё, што было трэба, – некалькі прадметаў. Хутка знайшлі патрыманую мэблю, якую гаспадар быў удзячны прыняць.

## Многія падцягваюцца

«Бумеранг дабра» запрашае розныя арганізацыі спрычыняцца да добрых спраў. Для некаторых паход у піцэрыю, на сушы, у забаўляльны цэнтр – мара, якую складана ўвасобіць у тых умовах, у якіх цяпер сям’я. Для арганізацый або прадпрымальніка сума аднаго заказу, якую яны аддаюць для дабрачыннага сертыфіката, моцна па кішэні не б’е. Але гэта падтрымка дазваляе падарыць добрыя імгненні, якія застануцца пра дзяцінства.

Ёсць кампаніі, якія часта падтрымліваюць дабрачынныя прапановы. Асабліва каштоўная фінансавая падтрымка. Гэта дазваляе не толькі набываць дакладна тое, што неабходна падапечным, але і аплачваць юрыдычны адрас, абслугоўванне рахунка.

Для ўстойлівай работы арганізацыі важна, каб фінансаванне было пастаянным. Гэта дазваляе планаваць працу, мець магчымасць хутка дапамагчы, калі камусьці спатрэбіцца дапамога проста зараз.

Яшчэ адна пільная неабходнасць для арганізацыі – склад. Калі актывісты збіраюць патрэбнае для падапечных, рэчы захоўваюць у дамах. Канешне, гэта нязручна для ўсёй сям’і. А плаціць штомесяц арэнду склада – значыць, не дадаць гэтыя грошы на дабрачыннасць.

Таму аб’яднанне прапануе любым ахвотным далучыцца ў шэрагі. Абавязак сябра «Бумеранга дабра» – сплачваць кожныя тры месяцы ўнёсак па 12 рублёў. Так удзельнікі не толькі спрычыняюцца да дабрачыннасці, але і атрымліваюць бонусы – бясплатны ўдзел у майстар-класах, на святах – аквагрым і прафесійнае фота і іншыя.

На многія выдаткі ўдзельнікі аддаюць грошы самі. Напрыклад, на рэкламу бясплатных дабрачынных імпрэз.

Патрэбныя таксама валанцёры. На святе ў гонар Цімафея Раця не хапала рук – трэба быў чалавек, які збіраў бы дзіцячыя малюнкі. Нічога складанага ў працы няма, а чалавека не маглі знайсці.

У прыярытэце аб’яднання – падтрымка сямей. Але звяртацца можа любы, каму неабходная дапамога. Многія маюць патрэбу ў простых рэчах, якія вырашыць нескладана. У жанчыны, якая засталася адна з двума дзецьмі, адзін з якіх ляжачы інвалід, няма магчымасці схадзіць у аптэку. Неабходна дапамога валанцёра, які схадзіў бы і прынёс лекі. Мужчыну з інваліднасцю трэба, каб проста памылі падлогу і крыху прыбралі ў доме.

Добра, калі да арганізацыі далучацца юрысты і псіхолагі. Але не ўсе рашаюцца звярнуцца па кансультацыю да прадстаўнікоў дзяржаўных устаноў. Асабліва гэта тычыцца псіхолагаў – звярнуцца да спецыяліста ў нефармальнай абстаноўцы значна прасцей.

## Ці могуць адмовіць у дапамозе

Актывістам важна, каб дапамога ішла тым, каму сапраўды неабходная. Таму перш чым абвяшчаць збор, высвятляюць сітуацыю. Звычайна складаныя абставіны можна патлумачыць дакументамі – даведкай аб захворванні, чэкам аб аплаце крэдыту, пасля якога не засталося грошай на ежу, інш.

Аднойчы па дапамогу звярнулася шматдзетная маці. Ніякіх дакументаў на дзяцей у яе не аказалася. Актывісты вырашылі трымацца мудрасці: хочаш накарміць чалавека – навучы рыбачыць, а не давай рыбу. Таму прапанавалі ў першую чаргу дапамагчы з дакументамі. Жанчына ж настойвала, каб ёй сабралі толькі рэчы. Сітуацыя выглядала дзіўна, таму актывісты вырашылі не рызыкаваць рэпутацыяй.

## Ці разумеюць блізкія

Актывісты аб’яднання – маладыя мамы, якім трэба паспець уладкаваць дом, выхоўваць дзяцей і рабіць шмат іншых спраў. Але яны знайшлі час і сілы яшчэ дапамагаць іншым. Гэта і дадатковая нагрузка на мужоў. Калі ў іх актыўнасці або сустрэчы, домам і дзецьмі займаюцца мужчыны.

– У мяне муж пытаецца, ці робіць дабрачыннасць мяне шчаслівай, – дзеліцца Кацярына. Яе сыну Іллі 1,8 года. – Бачыць, што так, і гэта для яго галоўнае. Канешне, яму даводзіцца часцей быць з дзіцем, часам ахвяраваць сваімі справамі, але стараецца мяне падтрымаць.

– Час, які аддаём на дабрачыннасць, мы забіраем з сям’і, – расказвае Вольга. У Вольгі сямігадовы сын Антон і чатырохгадовы Марцін. – Канешне, мужу шкада мяне, калі бачыць, што начамі займаюся. Калі выйду на працу, напэўна, будзе больш складана.

Сімвалам арганізацыі актывісты абралі бумеранг. Задума ў тым, што калі робіш дабро, яно вяртаецца да цябе.

– Адчуваем гэта на сабе, – кажа Кацярына. – Удзячныя вочы – бясцэнныя. Вяртаецца дабро знаёмствамі і сустрэчамі з патрэбнымі неверагоднымі людзьмі. Бачыш, як смяюцца дзеці на той жа фотасесіі з жывёламі – так, час, энергія, але складанага ў тым няма, каб падарыць ім гэтыя хвіліны шчасця? Пасля свята для Цімафея звязаліся з яго мамай падзяліцца ўражаннямі. Яна была ў Чэхіі на лячэнні з Цімам. Жанчына плача ад шчасця ў Чэхіі, мы плачам ад шчасця ў Маладзечне – эмоцыі неперадавальныя!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Калі вы хацелі б дапамагчы аб’яднанню «Бумеранг дабра», актуальную інфармацыю шукайце ў суполцы «Укантакце» **vk.com/bumerangdobramolo.**

Ахвотныя стаць сябрамі арганізацыі могуць атрымаць падрабязную інфармацыю па нумары **(8-044) 561-88-54,** Ірына.

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*

Заўзятары маладзечанскага «Дынама»

# 23 шайбы на пачатку сезона. Маладзечанскае «Дынама» стартавала ў Кубку Салея

**Каманда пад кіраўніцтвам Мікульчыка пачала сезон з упэўненых перамог над сваімі сапернікамі.**

Напярэдадні ў хакеістаў з Маладзечна яшчэ тры гульні. Адну яны прапускаюць – жлобінскі «Металург» дыскваліфікаваны з гонкі за Кубак Салея.

### Тры перамогі запар

Маладзечанскія хакеісты згулялі два матчы – супраць наваполацкага «Хіміка» і зборнай U-18.

У чацвер, 1 жніўня, хакейны клуб «Дынама-Маладзечна» згуляў першы матч Кубка Салея. Матч прайшоў у Наваполацку, дзе маладзечанскія хакеісты сустрэліся з мясцовым «Хімікам».

«Дынама-Маладзечна» перамагло сапернікаў з лікам **7:0**. Шайбамі адзначыліся **Герман Несцераў**, **Ягор Воранаў**, **Руслан Журня**, **Павел Баярчук**. На рахунку **Аляксандра Зубрыцкага** першы хет-трык у сезоне. Лепшымі ў складзе «Дынама-Маладзечна» прызналі Аляксандра Зубрыцкага і варатара **Віталя Бялінскага**, які здолеў захаваць свае вароты ў недатыкальнасці.

Самы буйны лік другога гульнявога дня быў у Маладзечне. Дынамаўцы яшчэ ў першым перыядзе паказалі, што матч пройдзе для юніёраў складана. Маладзечанскія хакеісты адзначыліся пяццю шайбамі ўжо ў першым перыядзе. За гульню падапечныя галоўнага трэнера **Мікульчыка** забілі 11 шайбаў, а прапусцілі ўсяго дзве.

А ў трэцім матчы «Дынама» ў дадатковы час перамагло «Ліду» з лікам **5:4**. Гэта быў самы цяжкі матч для маладзечанскіх хакеістаў пасля дзвюх буйных перамог на пачатку Кубка Салея. Наперадзе ў «Дынама» чатыры гульні ў групавым этапе.

### Маладзечанцы не згуляюць з «Металургам»

Жлобінскі «Металург» не дапусцілі да Кубка Салея. Прычына – невыкананне рэгламенту спаборніцтваў, у ліку якіх шматгадовая запазычанасць клуба перад федэрацыяй і хакеістамі, якія былі вымушаныя звярнуцца ў апеляцыйны камітэт федэрацыі хакея. Такім чынам, маладзечанцы не будуць гуляць матчы са жлобінскай камандай у рамках Кубка.

У выпадку, калі клуб не вырашыць праблемы да 15 жніўня, «Металург» не будзе дапушчаны і да старту нацыянальнага чэмпіянату.

### Новы фармат Кубка

Кубак Салея, раней Кубак Беларусі, змяніў структуру ў гэтым сезоне. Каманды згуляюць у парах па алімпійскай сістэме. Мацнейшыя выйдуць у плэй-оф, дзе на стадыі паўфіналу да іх далучацца «Юнацтва» і мінскае «Дынама». На групавой стадыі 16 камандаў падзеляцца на дзве групы па восем у кожнай. У перыяд ад 1 да 14 жніўня ўдзельнікі згуляюць паміж сабой па адным матчы ў адзін круг.

Маладзечанцы выступаюць у групе «Б»: «Шахцёр», «Металург», «Ліда», «Брэст», «Хімік», «Віцебск», юніёрская (U-18) зборная Беларусі.

### Матчы «Дынама-Маладзечна» ў Кубку Салея:

**10 жніўня:** «Дынама-Маладзечна» – «Віцебск»

**12 жніўня:** «Шахцёр» – «Дынама-Маладзечна»

**14 жніўня:** «Дынама-Маладзечна» – «Брэст»

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Турнір па балотным футболе прайшоў у Ашмянах

У суботу, 3 жніўня, у Ашмянах прайшлі спаборніцтвы па балотным футболе. Турнір праводзяць у чацверты раз.

Сёлета ў футбол згулялі сем камандаў, у тым ліку – дзве жаночыя. У мужчынскай частцы спаборніцтваў пераможцамі сталі футбалісты ашмянскіх электрычных сетак, а сярод жанчын перамаглі прадстаўніцы ашмянскай цэнтральнай раённай бальніцы.

**Паводле osh.by.**
**Фота Аляксандра НАВУМЧЫКА.**



## Смаргонцы перамаглі на спаборніцтвах па стрытболу

Выхаванцы Смаргонскай СДЮШАР стварылі каманду пад назвай «Фантазёры». У складзе каманды гуляюць **Уладзіслаў Гаўрош, Аляксандр Курчаў, Ягор Вільбік, Данііл Маліноўскі**. Баскетбалістаў трэніраваў **Сяргей Дурэйка**.

27 ліпеня смаргонскія стрытбалісты перамаглі на турніры падчас музычнага фестывалю ў Браславе. Смаргонскія «Фантазёры» таксама сталі пераможцамі другога этапу нацыянальнай стрытбольнай лігі «Палова».

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»




**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Прыгажосць формы, позы, руху цела.
4. Доўгія валасы на шыі некаторых жывёл.
5. Некалькі дзясяткаў гэтых ягад па сваім дзеянні, нібы таблетка аспірыну.
8. Спаборніцтва ў якой-небудзь галіне спорту паміж дзвюма камандамі або двума праціўнікамі.
9. Сатырычная або гумарыстычная манера адлюстравання, пры якой захоўваецца знешняе падабенства, але карыкатурна перабольшаныя і падкрэсленыя найбольш характэрныя рысы.
10. Судна для перавозкі вадкіх грузаў (нафта, кіслоты), якія наліваюць у цыстэрны.
11. Назва дзіцячага цэнтра культуры ў Маладзечне.
12. Аматар вандраваць.
13. Навука пра рэчывы, іх будову, састаў, уласцівасці і ўзаемныя пераўтварэнні.
14. Гулец, які ў картачнай гульні выкарыстоўвае махлярскія, ашуканскія прыёмы.
16. Збудаванне ў выглядзе раду ступенек для пад'ёму і спуску.
18. Дзіцячая цацка ў выглядзе фігуркі чалавека.
23. Палёгка ў выкананні якіх-небудзь абавязкаў.
25. Гэту краіну лічаць самай адукаванай.
26. Уяўны круг, які праходзіць паралельна экватару на адлегласці 23°27′ на поўнач або на поўдзень ад яго.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Дзелавая або сардэчная размова.
3. Вадзяны вал, які ўтвараецца гайданнем паверхні вады.
4. Мнагаструнны шчыпковы музычны інструмент славянскіх народаў.
6. Невялікі пітны дом, дзе прадаваліся і распіваліся спіртныя напіткі.
7. Металічны стрыжань для смажання шашлыку на агні.
9. Ледзь чутная гутарка, пры якой гукі вымаўляюцца без удзелу галасавых звязак.
15. Галаўны ўбор усходніх цароў у старажытнасці, жрацоў.
17. Прылада для курэння, якая складаецца з цыбука і галоўкі, пустой унутры, у якую насыпаюць тытунь.
19. Пэўны прамежак часу, адведзены для чаго-небудзь.
20. Самае распаўсюджанае лісцёвае дрэва ў свеце.
21. У ім пульс чалавека замаруджваецца да 15-20 удараў у хвіліну, а дыханне становіцца больш роўным і спакойным.
22. Менавіта гэты арэх штогод становіцца прычынай смерці каля паўтары тысячы чалавек.
23. Вадзіцель самалёта.
24. Імя бацькі беларускага тэатра.

## Адказы на крыжаванку з №31

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 5. Рэквізіт. 6. Хата. 7. Машынапіс. 9. Медзь. 11. Джоўль. 12. Гарвард. 13. Асьміногаў. 18. Мыць. 19. Мары. 20. Кітай. 22. Хлыст. 23. Айсберг. 24. Вугор. 25. Дэтэктыў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Мундзір. 2. Калабок. 3. Рэсурсы. 4. Рэшта. 8. Халат. 10. Дзясна. 14. Дэспат. 15. Джаконда. 16. Распіска. 17. Пальцы. 19. Мяць. 21. Дэлегат. 24. Выпуск. 26. Рэле. 27. Работа.

## ● ГАРАСКОП НА 9-15 ЖНІЎНЯ



**АВЕН.** Некаторыя вашы ўчынкі атрымаліся з-за таго, што ў вас было празмерна эмоцый. Калі вы дзейнічаеце пагарачыўшыся, асабліва раздражняюць тыя, хто спрабуе астудзіць пыл. Але часам да такіх людзей варта прыслухоўвацца.



**ЦЯЛЕЦ.** На працы вас ведаюць як надзейнага калегу, якому можна даручыць любую задачу. Але ў вашым сэрцы ёсць месца і для рамантызму. Пазнаёмце з ім дарагіх вам людзей.



**БЛІЗНЯТЫ.** Для вас цяпер добрая магчымасць пераасэнсаваць этап жыцця, які на зыходзе. Вас чакаюць новыя гарызонты, адкрыцці, дасягненні. Даверцеся Сусвету адкрыць для вас нешта новае.



**РАК.** Часам з-за налёту таямнічасці, якім грашаць усе прадстаўнікі вашага знака, няпроста знайсці чалавека, з якім можна было б шчыра паразмаўляць пра набалелае. Адшукайце такога чалавека сярод знаёмых, і вам дакладна будзе лягчэй.



**ЛЕЎ.** Асабліва летам работнікі любяць жартаваць, што не працай адзінай. Добра гэта ці не вельмі, але ў гэтыя дні вам варта на першае месца паставіць працу.



**ДЗЕВА.** Некаторым можа падацца, што ў вашым падыходзе да жыцця занадта шмат разліку. Але вы цудоўна разумееце, што гэта разумная мера. Таму цаніце тых, хто гэта разумее.



**ШАЛІ.** Часам блізкія людзі могуць не разумець, чаму вы дзейнічаеце так, а не па-іншаму, бо за воблакам загадак складана ўбачыць вас. Няхай таямніц стане менш, а вас больш. Гэта дапаможа родным і сябрам зблізіцца з вамі.



**СКАРПІЁН.** Прадстаўнікі вашага знака – моцныя і харызматычныя людзі. Шкада, калі гэта энергія не ідзе на самаразвіццё. Паспрабуйце спыніць тое, што не дае вам руху наперад. Няхай увесь запал ідзе толькі на тое, каб зрабіць вас больш паспяховымі.



**СТРАЛЕЦ.** Вы добра ўспрымаеце крытыку. Менавіта пра ваш знак кажуць «прамая, нібы страла». Калі для вас пэўны ўзровень шчырасці – норма, то некаторыя іншыя могуць такое не вытрымаць. Таму для іх лепш трымацца больш далікатных выразаў.



**КАЗЯРОГ.** Для вас каштоўнасць – упэўненасць у заўтрашнім дні і цвёрдая глеба пад нагамі. Таму да сябе вы падпускаеце толькі тых людзей, у якіх упэўненыя на ўсе 100%. Няхай так будзе і далей.



**ВАДАЛЕЙ.** На гэтых днях вам варта крыху суцішыць свой няўрымслівы характар. Такіх дынамічных, упартых і свабодалюбівых людзей сустрэнеш не часта, таму дазвольце іншым прывыкаць да вас.



**РЫБЫ.** Вам хочацца перамен проста зараз. Не стрымлівайце сябе і зрабіце тое, чаго хоча сэрца. Няхай гэта будзе невялікая перастаноўка ў доме, на працы або перамены ў іміджы.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 5 | | | 3 | | |
| 1 | 6 | | | 3 | | 7 | | |
| | | 9 | | | 7 | 4 | 1 | |
| 4 | | | | | | 8 | | |
| 8 | 9 | | 7 | | | 2 | | |
| | | 6 | | 5 | | 9 | | 3 |
| | | | 1 | | 3 | 6 | 8 | |
| | | | 2 | | | | 7 | |
| 6 | | 8 | 9 | 7 | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

# Рэгіянальная газета. Rh.by







Фота Андрэя РАГІНСКАГА.

У мінулыя выхадныя на вуліцы стрыт-фуда прайшлі першыя заняткі.

## У гэту нядзелю, 11 жніўня, на вуліцы стрыт-фуда ў Маладзечне пройдуць заняткі па зумбе. Усіх, хто хоча паўдзельнічаць у мерапрыемстве, чакаюць у сем вечара. Уваход – свабодны.

### Чытайце праз тыдзень:

- Маладзечанская фабрыка «Сакавіца» – што адбылося на прадпрыемстве? Імкнёмся паказаць пазіцыю розных бакоў.

## 10 жніўня, субота

**Вецер:** заходні, 3 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература +6,8°С у 1962 годзе
Максімальная тэмпература +33,7°С у 1992 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 25,8 мм у 2005 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Чым варта займацца на пенсіі?



**Вольга Сабалеўская, настаўніца:**
– Я дапамагала б з унукамі сваім дзецям. Ведаю на сваім досведзе, што гэта трэба і важна. І, нарэшце, адпачынак і жыццё ў вёсцы. Мы з мужам гэтага вельмі хочам. Хочацца паказаць і самаразвіццё, у любым узросце аб гэтым не варта забываць!



**Арцём Міцкевіч, ахоўнік:**
– Я хацеў бы на пенсіі жыць у маленькім дамку за горадам, каб атрымоўваць асалоду ад прыроды, цішыні. Яшчэ хадзіць у лес па грыбы, па ягады ў задавальненне, слухаць спевы птушак над ёгу, а таксама наведваць лазню і дапамагаць гадаваць сваіх будучых унукаў.



**Кацярына Трапашка, медык:**
– Падарожжы, узаемадзеянне з дзецьмі і ўнукамі. Ну і, вядома ж, жыццё за горадам. Ды і многія пенсіянеры яшчэ працуюць. Увогуле, жыць актыўным жыццём.



**Алеся Данільчанка, гаспадыня:**
– Мне да пенсіі далекавата, але хочацца займацца тым, чым хачу. Атрымліваць асалоду ад часу, пакуль сын яшчэ побач. А так рыхтаваць розную ежу з прадуктаў пад свой настрой.



**Віталь Лучыновіч, магістрант:**
– Я падарожнічаў бы, бо ў сталым узросце трэба свет пабачыць. Але пры ўмове таго, што дзяржава забяспечыць грашыма на такія справы, каб ні ў чым сабе не адмаўляць.



**Іна Садоўская, гаспадыня:**
– Пераехаць жыць у вёску, развесці гаспадарку: свінак, кароўку, курачак. Браць унукаў на канікулы, каб яны палюбілі жывёлу, працу і землярробства.



**Арына Тархан, беспрацоўная:**
– Рабіць тыя рэчы, якія не рашаліся рабіць у маладосці. А галоўнае – шмат падарожнічаць.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№32 (1267) 9.08.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1248. Падпісана ў друк у 9.00 8.08.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**




Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.